Przesyłka opłacona ryczałtem.

Год III　Вільня, Сакавік 1932 г.　№ 1

# СЬВЕТАЧ БЕЛАРУСІ

## Зьмест



**Цана нумару 35 гр.**

Выд. Бел. Цэнтр. Праваслаўны Камітэт.　Рэдактар Я. Бурак.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, Letnia 12—3.　Друкарня У. Знамяроўскага, Квашэльна 8[2]

Odbito w Drukarni „Głosu Wilna", ul. Ostrobramska 17.

В связі сь этім заінтересованнымі в протівном несколькімі ліцамі і іх блізкімі была поведена агітація і сбор подпісей под пісьмамі протів Вашего назначенія. Под этімі пісьмамі, к сожаленію, оказаліс і нашi подпісі.

Прінімая во вніманіе:

Что прічіны этой агітацыі імелі в своем основаніі мотівы не обшче церковнаго, а ісключітельно лічнаго характера,

что Ваше назначеніе ісходіло од Высшей Духовной Властi, протів распоряженія коей мы, как верныя деті церкві, не можем выступать,

что давать о Вас, как сьвяшченніку, отріцательную оценку мы не прізваны і не імеем для такой оценкі основаній, каковыя, несомненно, лучше ізвестны назначівшей Вас высшей Духовной Власті,

что лічно протів Вас мы нічего не імелі і не імеем,

что подпісі нашi оказаліс под вышеупомянутымі пісьмамі по прічіне нашей неосторожності і доверію к ліцам, нашім доверіем злоупотребівшім,

настояшчім, выражая сожаленіе своему поступку, заявляем, што подпісі свої под вышеупомянутымі пісьмамі мы снімаем, а от ініціаторов іх с презреніем отворачіваемся. Ідуць подпісы прыхаджан Мікалаеўскай царквы ў Вільні.

**Ад Рэдакцыі.** Пісьмо гэнае перахоўваецца ў рэдакцыі. Зьмест яго гавора сам за сябе. Прыхаджане самі асуджаюць тых інтрыгантаў, якія выкарысталі іх даверра і нясуменна іх ашукалі. Апрача таго ў Рэдакцыі знаходзяцца заявы некаторых асобаў аб тым, што подпісы іх пад пісьмамі ў „Гол. Прав. Беларуса" падроблены.

---

## Паштовая скрынка

**Янку Скрабцу,** засьц. Аселіца у Горадзеншчыне.

Просіце парадзіць, што рабіць Вам з сынам, якога хочаце вучыць у Віл. Белар. Гімназіі, аб якой Вы чулі быццам што там ня ўсё ў парадку. З артыкулу „Трагізм віл. белар. гімназіяльнай моладзі" у гэтым нумары, Вы яшчэ больш давадаецеся аб „парадках", у Гімназіі. Аднак-жа варункі гэныя хутка зьменяцца. Сына, радзімо вучыць, толькі ў сваёй роднай Гімназіі. Гэта ваш абавязак! Адносна А. Міхалевіча, як разбураючага гімназію, дык ён напэўна будзе выдалены з яе ня толькі як дырэктар, але як і вучыцель, бо апрача яго „пэдагагічных здольнасьцяў" ён ня мае ніякіх кваліфікацыяў. Аб варунках прыняцьця дачкі ў Белар. Вучыц. Сэмінарыю даведайцеся ў сэкрэтарыяце сэмінарыі (Wilno, ul. św. Anny 2).

**Антону К.,** Гарадок каля Маладэчна.

Калі маеце магчымасьць, то абавязкова трэба ехаць. Па дарозе заедзьце ў Ц.Б.П.К. за інструкцыямі. Пратакол перашлеце ў прэзыдыюм, які будзе прадстаўлены адпаведным уладам. За працу Вашу шчыра дзякуем.

**Міхасю Чарнецкаму з Дзісны.** Дзеля паступленьня на Студыюм Тэолёгіі у Варшаве не абавязкова кончыць Дух. Сэмінарыю. Хопіць таксама скончаньне дзяржаўнай гімназіі, зразумела калі атрымаеце матуру.

**Ул. Паульскі м. Лужкі, Дзісьненшчына.** Ц. В. П. К. горача Вас перапрашае за немагчымасьць спатканьня з Вамі. Пішыце ў Камітэт як у Вас ідзе там праца. „Сьвет. Белар." высылаем.

**М. Патоцкі, Вільня.** Абавязкава і то ў найбліжэйшых днях зайдзеце ў Камітэт (Letnia 12—3) між г. 10 а 2 па п.

**Сьв. Сьв. І. Ш., Б. Н., С. П., В. Ж.,** падпіску атрымалі, высылаем. Як хочаце, ад Вас залежыць, мы аднак не радзімо. „Гаварыць аб іх ў Царкве не выпадае; іх і так добра ўсе ведаюць.

**Абмылка у друку.** На 6 стар. 9 радок зьнізу надрукована: інтэкст, трэба — „інтэлект".

ГОД III. САКАВІК 1932 г. № 1

# СЬВЕТАЧ БЕЛАРУСІ

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Летняя 12—3.

## ДЛЯ ДАБРА ЦАРКВЫ

Пры царскім урадзе у Расеі Праваслаўная духоўная Улада ніякай сваёй самастойнай палітыкі не праводзіла. Яна рабіла тое, што падабалася ураду.

Гэтая сувязь ураду і духоўнай улады больш ясна выяўлялася у нас на Беларусі, дзе духавенства было разсаднікам русыфікатарскай палітыкі. Рускасьць і Праваслаўе для гэтых ўрадоўцаў былі сынонімамі. Але беларускі народ не так лёгка паддаваўся русыфікацыі, і ня гледзючы на ўсе высілкі расейскага ураду захаваў сваю мову, свае звычаі, захаваў сваю самабытнасьць. Пры такіх варунках ня магло быць і мовы аб духовай блізасьці паміж духавенствам і вернымі.

Духоўнік, як расейскі ўрадовец, быў адарваны ад народных масаў, а народ з свайго боку да духаўніка адносіўся падазронна, і лічыў яго толькі як выканаўцу рэлігійнага культу. Такая адчужанасьць духаўніка і верных больш усяго выявілася у часе сусьветнай вайны.

Калі немцы занялі беларускія тэрыторыі, то праваслаўнае духавенства пакінула сваю паству, пакінула свае царквы і эвакуавалася ў Расею, пакідаючы частку веруючых без духоўніка.

Чужое па духу—духавенства не хацела споўніць свой сьвяты абавязак—дзяліць са сваімі пасомымі ўсе цяжары нямецкай акупацыі, быць яго уцяшыцелям у цяжкую хвіліну.

У Расеі рэвалюцыя! Духавенства там пачынаюць уціскаць, цяжка яму прыходзіцца.

Паўстае незалежная Польшча. Духавенства ўспомніла,—што у межах Польшчы, на беларускіх абшарах, пазасталіся праваслаўныя прыходы з царквамі і прыходжанамі. Многа вярнулася назад у свае папярэднія прыходы. Мала па малу пачынае наладжывацца царкоўнае жыцьцё.

Новыя варункі, у якіх апынўўся беларускі народ і духавенства, вымагаюць ад апошняга і новых адносін да прыхажан. Нажаль, духавенства, ўзгадаванае ў даваенных традыцыях не зразумела сваёй новай ролі—быць духоўнікам адраджаючагася беларускага народу. Ізноў паўстае адчужанасьць паміж духоўнікам і пасомымі, ізноў праваслаўны беларус пачынае глядзець на свайго духоўнага пастыра толькі як на выканаўцу рэлігійнага культу.

Стараньнем часткі гіерархаў на чале з сьв. п. мітр. Юрым, падтрыманым польскім Урадам, праваслаўная Царква у Польшчы атрымала

сваю аўтакэфалію. Аднак аўтакэаліі на п ершых парах не прызнае другая частка гіерархаў і найбалей абмаскоўленая сельскае радавое духавенства.

Першы Мітрапаліт аўтакэфальнай царквы сьв. п. мітр. Юры трагічна канчае жыцьцё у барацьбе за ідэю аўтакэфаліі. Яго ідэёвым наступнікам становіцца Блаж. Мітр. Дзіаніс. У нашай эпааˣіі гэтаму процістаўяцца.

Вільня яшчэ дагэтуль памятае барацьбу т. зв. „Элеўфэраўцаў", якую яны вялі з новым — аўтэкафальным ладам царкоўнага жыцьця. Усё гэта яскрава паказвае, што мясцовая Царкоўная Улада не хацела пайсьці на спатканьне жыцьцёвым інтарэсам беларускага народу, і ўдохнаўляемая расейскімі эміграцкімі коламі, верыла што Саветы у Расеі хутка ўпадуць, і ўзноў паўстане „единая і неделімая". Але такая палітыка мясцовай духоўнай улады надта цяжка адбілася на Праваслаўі.

Адсутнасьць сувязі, адсутнасьць уплыву духаўніка на верных першыя выкарысталі сэктанты, якія падыйшлі да народу на грунце нацыянальным і абсадзілі сваімі пляцоўкамі значную частку прыходаў.

Гэта быў першы удар, які быў пасланы Праваслаўю палітыкай мясцовай духоўнай улады.

Ваяўнічы камунізм і яго спадарожнікі атэізм і бязьверра, з Савецкай Беларусі сталі мала-па-малу пралазіць на нашую вёску.

Каб забіць гэты рух у самым зародку, патрэбны быў пастыр духоўна зьліты са сваімі пасомымі; пастыр, які быў бы аддланы свайму народу.

Трэба было, каб народ верыў свайму духаўніку і лічыў бы яго сваім, родным. Віл. эпарх. духоўная Улада, верная сваей палітыцы, уселякую праяву беларускасьці ў сьвяшчэньніка моцна карала. Нават больш! Яна падкупляла прэсу, у якой паганіла і травіла ўсіх тых, хто змагаўся за родную веру.

Сельская духавенства праз разсыланыя яму кансысторскім загадам газэты змушана было праводзіць русафільскія тэндэнцыі у нетры народу. Эпархіяльная Улада змушала сьвяшчэньніка быць чужым сярод сваіх прыхаджан.

І гэта праводзілася тады, калі адраджэнскі рух беларускага народу шукаў новых шляхоў і духовае апоры.

Духавенства, стаўшы на нацыянальны гнурт, лёгка магло бы павесьці народ за сабою, быць яго духовым павадырод, і атэізм ня быўбы страшны для народных масаў.

Але для гэтага патрэбна было, **каб праваслаўе стала сымболем беларускасьці**.

На гэта мейсцовая духоўная Улада кіруючыся сваёй палітыкай пайсьці не магла, і сьвядома дапусьціла пашырэньня сярод народу атэізму, а гэта каб толькі захаваць у пастаці праваслаўнага духавенства расейскую пляцоўку на Беларусі.

Тут ня можна вінаваціць у варожасьці да Бел. Народу радовага

духавенства, а ўвесь цяжар віны за гэта ляжыць на мястовай Эпарх. Уладзе, да поглядоў якой духавенства змушана застасоўвацца.

Кансэрватыўны сьветапагляд беларускага народу перамог наступленьне камунізму, але бязверра і рэлігійны індэфэрэнтызм пазасталіся. Сельскае духавенства гэта добра адчўвае і ведае, што шчыры беларускі праваслаўны сьвяшчэньнік лёгка змог бы цяпер апанаваць сытуацыю—калі бы яго падтрымала мясцовая Духоўная Улада.

Стварыўшаяся Status quo стараецца выкарыстаць самы магутны праціўнік Праваслаўя—Каталіцызм і Вунія. Вёўшаяся ў кірунку русыфікатарскім і дзеля гэтага пацярпеўшая фіаско. Уніяцкая Духоўная Улада прыйшла нарэшце да пераконаньвя, што пасьпех уніяцкай прапаганды магчымы толькі на грунце нацыянальным.

Гэты новы шлях па яе погляду павінен быў знайсьці падтрыманьне з боку беларускіх нацыянальна-сьвядомых элемэнтаў. Уніяцкая праца сярод нашага народу вядзецца плянова і рашўча. Досыць прачытаць уніяцкі календар на 1932 год ў беларускай мове, распаўсюжаны па нашай вёсцы у дзесятках тысячаў, месячнік у беларускай мове „Да злучэньня“, каб праканацца, што кампанія супроць Праваслаўя вядзецца рашучая, і што у сьвядомасьці народных масаў паступова праводзіцца ідэя, што вунія павінна стаць нацыянальнай рэлігіяй беларускага народу. Для змаганьня з вуніяй Мітраполія выдае газэту „Слова“.

Ці робяцца якія-небўдзь захады з боку мясцовай эпархіяльнай улады, каб праціўставіць нешта рэальнае супроць гэтага наступленьня каталіцызма? Сьмела можна сказаць, што ніякіх!

І што дзіўней, замест барацьбы з вуніяй, некаторыя мясцовыя духаўнікі блізкія да арх. Хвядоса, на апошнім зьездзе благачынных у Вільні усьцяж крычэлі аб пакладаньні высілкаў дзеля захаваньня аўтарытэту арх. Хвядоса, якому „пагражае“ нейкі знекуль вораг.

За праваслаўе пачынае змагацца само бел. грамадзянства. У пачатку 1930 г. паўстае Цэнтр. Бел. Правасл. Камітэт, які дацэніваючы нацыянальную сьвядамасьць беларускага пароду, праводзіць ідэі беларусізацыі царквы, разумеючы добра, што толькі гэтым шляхам удасца ў нас змацаваць Праваслаўе.

І як гэта ня дзўіна Цэнт. Бел. Прав. Камітэту прыходзіцца вясьці барацьбу не толькі з праціўнікамі Праваслаўя, якія пасягаюць на нашую Веру, а і з Праваслаўнай Духоўнай Уладай нашае эпархіі, якая своей палітыкаю губіць Сьв. Праваслоўе ў нашым краі.

У апошні час дайшло да таго, што мясцовая Духоўная Улада для барацьбы з Цэнтр. Бел. Пр. Камітэтам стварыла новую праваслаўную беларускую групу, якая складаецца выключна з афіцыяльных безвызнанёўцаў, атэістаў і масонаў.

Гэтая група, „на сабранныя“ грошы выдае сваю часопісь „Голас Праваслаўнага Беларуса“ аўтары якое нават баяцца выставіць свае прозвішча пад артыкуламі, гэта для нас з прычынаў зусім зразумелых.

Заданьнем мясцовай Духоўнай Улады у першую чаргу павінна

быць захаваньне і ўзмацаваньне Праваслаўя ў нашым краі. Не народ для пастыра, але Пастыр для народу. Не эмігранцка—расейская палітыка, а хрысьціянская любоў, адданасьць сваей Веры і тому народу, сярод якога пастыр прызваны вясьці сваю духоўную працу, павінна кіраваць палітыкай нашай Духоўнай Улады.

Цяперашняя „палітыка" уносіць разлад сярод верных, аслабляе і развурае Сьв. Праваслаўе. Не барацьба і ненавісьць, а любоў, давера і ўзаемнае супрацоўніцтва павінны лучыць Духоўную Уладу з Бел. Народам.

Мясцовая Дух. Улада нарэшце павінна сапраўды прызнаць беларускі народ і верна служыць яму, альбо адыйсьці і даць мейсца другім, якія разумеюць, што нельга быць ворагамі народу, духоўным пастырамі якога прызваны яны быць! **У. Б.**

# НАКАЗ ХВІЛІНЫ

Сусьветны крызыс эканамічны, ахапіўшый сяньня сабой цэлы сьвет, цесна вяжацца з крызысам і ў іншых галінах жыцьця людзкасьці. Сяньня з крызысам эканамічным адначасна прайходзіць над сьветам крызыс думкі, крызыс мастацтва і культуры і наагул крызыс жыцьця духовага. А дзеля таго, што для нас, хрысьціян, адным з найгалаўнейшых складнікоў жыцьця духовага ёсьць рэлігія, то мы на гэным месцы разгледзім крызыс жыцьця духоўна—рэлігійнага, які таксама сяньня можам заўважыць і з якога мусімо шукаць нейкія выхады. Крызыс жыцьця духоўна — рэлігійнага трэба разгледзіць з асабліваю увагай, бо ён будзе найбольш балючым сяньня пытаньнем, а гэта дзякуючы: 1) абставінам справакаваным гістарычным матэрыялізмам, 2) сяньняшняму зблутаньню жыцёвых, абставінаў быцьця з нававытваранымі поглядамі і ідэямі на грунце крызысу эканамічнага і гістарычных неспадзевак і 3) зматэрыялізавана—жывёльнаму поцягу чалавека за хлебам і жаданьню зброcу з сябе законаў хрыстовых, як караючае права этыкі і маралі. Нашым заданьнем хай будзе вырашэньне пытаньня крызысу жыцьця духоўна-рэлігійнага на Беларусі. Прыступаючы да выяўленьня прычынаў гэтага крызысу ў нас, найсамперш мы разгледзім першага і галаўнейшага судзельніка Царквы—духовенства.

Пачынаючы ад рэформы Пятра Вялікага з 1720 г., замены засноваў саборных на сынодальна—кансысторскія, якія жыцьцё Царквы і духавенства падпарадкавалі ня толькі уладам цэнтральным праз Сынод, але і паасобным уладам адміністрацыйным, — мы маем „казённую" Царкву і замест пастыра, незалежнага прапаведніка, — згвалчанага ўрадоўца дзяржавы, здадзенага цалком на ласку і няласку меншых і вялікшых Пабеданосцевых. Вось-жа, народ, бачучы з гэтага часу за плячыма сьвяшчэньніка цень гарадавога, пачынае зачыняцца ў сабе і жыць сваім собкім, адарваным ад Царквы, духоўна—рэлігійным жыцьцём. Раздзельнасьць гэтая вырыла паміж духавенствам і народам і да сяньня яшчэ не засыпаную прорву. З гэтага часу, згвалчанае духавенства і народ, пачынаюць глядзець на Царкву, як на ўстанову дзе ў азначаны час адбыць трэба азначаныя фармальнасьці. Некалішнія шчырасьць і любоў да Царквы замяняюцца фарысейскаю маніфэстацыяй „благонадёжності". Усе з гэтым так звыкаюцца, што толькі нялічныя адзінкі. (Маскоўскі мітр. Філярэт) разумеюць належна трагізм вытваранае сытуацыі, разьбіваючае жыцьцё Царквы і забіваючее рэлігійнасьць у на-

родзе. Зусім не здаючы сабе ў гэтым справаздачы, урад вялікадзяржаўніцкі падобнымі рэформамі згатаваў сам сабе магілу, а народу—адзін з найвялікшых крызысаў жыцьця духоўнага-рэлігійнага. Праносіцца даўно назраваючая рэвалюцыя і Расея распадаецца. Народная ненавісьць, стагодзьдзямі бурлеўшая ў нетрах масаў, абрушаецца на ўсё тое, што Ўрад у свой час змонополізаваў і ўдзяржаўніў. Значная частка народу паўстае супроць ня толькі бязвіннага духавенства, але і супроць Царквы а нават і Бога, неразумеючы трагізму сваёй цямноты і выкарыстаньня гэтага тымі, хто рэлігію сіліцца аформіць „дурманствам" народаў.

Частка расейскага духавенства трапляе на Зах. Беларусь, у межы Польшчы. Жыцьцё дзяржавы тутака, праўда, пабудавана на асновах Хрысьціянства, але крызыс жыцьця духоўна—рэлігійнага і тут цяжкі, і то вельмі цяжкі. Духавенства нашае, ужо зжыўшаяся з мінулымі формамі, ніяк ня можа зразумець і прытарнавацца да новых абставінаў і ня быць тым згвалчаным урадоўцам, ды не паддавацца гэтаму, а наадварот; быць незалежным прапаведнікам, і жыцьцё царкоўнае будаваць на цесным сужыцьці з народам, у даным выпадку, з адраджаючымся народам беларускім. Народ-жа наш, у пару свайго прабуджэньня пачынае думаць катэгорыямі разважаньняў іншымі, чым некалісь, і таму зырка і хутка дагледзіў, што ён часта ня мае свайго і яму адданага пастыра, а мае чужога сьвяшчэньніка-ўрадоўца, пільна ўглядаючагася ў выраз жаданьня „дужых гэтага сьвету." Інакш кажучы, народ з поступам жыцьця і гісторыі перашагнуў консэрватыўны летарг свайго духаўніка. Гэта ж зразумела, не засыпае між імі прорвы, а якраз паглыбляе яе, ня дзіва, што гэта адразу ўбачылі і пачалі выкарыстоўваць як праціўнікі Праваслаўя так ворагі наагул хвысьціянства. У праваслаўную беларуск. вёску пачынае прасякаць, каталіцызм, вунія, безьліч сэктаманаў, атэізм, а то і проста, як вынік агульнае расьцярушанасьці і рэлігійнага зьбянтэжаньня, звычайная маральная зьдзічэласьць. І вось, калі часам які праваслаўны пастыр, далёка стоячы ад народу, ня змог натхнуць любоўю і прывязанасьцю да Царквы тых, хто і надалей глядзеў на яе, як на фармальшчыну даваенную, тыя ад яе пачынаюць адходзіць, перацягіваючы за сабой і другіх. Пастыр у гэны час бязрадна разводзіць рукамі, скардзіцца, што людзі цяпер ня маюць ніякіх сьвятасьцяў і ўстояў, хоцьжа якраз ён у пэўнай меры і зьяўляецца прычынаю гэтага зь вішча. Праўда, безпараўнальна вялікшая частка верных астаецца пры Царкве, дзякуючы гарачае веры ў Яе перамогу. Але якраз гэтая большасьць і перажывае сяньня балючы крызыс свайго духоўна-рэлігійнагв жыцьця. З аднаго боку на гэта склаліся прычыны, пералічаныя на пачатку і вышэй, а з другога боку гэты крызыс паглыбляюць няраз адзінкі нават з духавенства, не жадаючыя зьблізіцца з народам, а таму, для ўпрыемненьня сабе вольных гадзінаў, пазваляючыя на тое, што павінна быць з сорамам хавана прынамсі, калі ня спынена наагул, як благапрыкладнае і шкоднае для народных масаў. Вось-жа, на ўспомненую частку верных і трэба перадусім зьвярнуць сваю ўвагу, калі хто, як сапраўдны пастыр і хрысьціянін, маніцца пазытыўна разьвязаць гэны крызыс.

Народ наш, трэба ведаць, добра вычувае і разумее, што яго ад пастыра дзеліць нейкая наразе непраходная прорва, якую сваімі сіламі, без падтрыманьня духаўніка, яму не перашагнуць. Ізноў-жа, народ наш, па сваёй натуры глыбока містычны і таму вельмі рэлігійны. Ня менш і даверлівы для тых, хто даверыцца яму і аддасцца—за тых народ наш дасьць найвялікшыя самаахвяры. Вось-жа, таму духавенства нашае і нясе ўсю адказнасьць перад гісторыяй за лёс сяньняшняга жыцьця Царвы і яе будучыню. Неадкладна і, як варунак канечны, трэба перадусім дзеля перамогі духоўна-рэлігійнага крызысу, як мага бліжэй і неразрыўней сплоціцца духавенству з народам. Да гэтага зблі-жэньня павінен імкнуцца і духаўнік і верны, але дзеля таго, што пераважна духаўнік інтэлектуальна стаіць вышэй, і што дагэтуль ён унікаў гэтага зблі-

жэньня, то ініцыятыва павінна выйсьці з яго боку, ён павінен першы працягнуць руку дзеля сумеснага змацаваньня Праваслаўя і запабегу паўтарэньню таго, што сяньня прайходзіць над Расеяй Духаўнік павінен, апроч таго, з пасыўнага выканаўцы акрэсьленае абрадавасьці ператварыцца ў самага актыўнага піанэра Божага Слова. Сяньня за мала ўжо сказаць ad hoc зьлепленую пропаведзь прачуляючыся і любуючыся сваім аратарствам і артызмам ды багацтвам цытатаў, даводзячы гэтым да нічым нявытлумачанага хныканьня старых бабак. Сяньня пропаведзь духаўніка павінна быць тым магутным молатам, які з закамянелых сэрцаў павінен выкрасаць іскры Хрыстовае любові і самаахвярнаальтруістычнага промэтэізму. Сяньня замала абмежыцца шаблёнам даваеннага царкоўна – ўрадовага фармалізму. Трэба жыцьцё прыстасаваць да праводжанага веравучэньня, а самому прыстасавацца да вымогаў сучаснага жыцьця. каб ня быць ад яго адарваным і вечна жывое Слова Хрыстовае не рабіць анахранізмам перажытку. Трэба быць ня сухім пэдантам і выканаўцам кансысторскіх указаў, а самаахвярным і бязстрашным місыянэрам і байцом Жывое Праўды Сьвятое Царквы. Трэба каб абавязкі номінальных місыянэраў узлажылі на сябе ўсе пастыры місыянэрствам фактычным і ўдарным. Трэба культ сьвятасьцяў і Богапачытаньне распаліць да межаў фанатызму, абуджаючы ўздым і гарт адданасьці Хрысту ў формах гранітнасьці Хрысьціянства ў катакумбах Рыму. Трэба матэрыялістычнай распушчанасьці проціставіць дух волацтва аскэтызму, грубому бязьверру—асьветлены дэвотызм. Трэба Галгофаю свайго жыцьця распаліць стыхійнасьць парываў да жыцьця ў Хрысьце і для Хрыста, расплямяняючы інтэкст культурных сілаў сьветачам Хрыстовае сьветазарнасьці. Трэба нарэшце пасыўную захаваўчасьць Царквы замяніць экспансыўным спасягам і поступам, абапёртым на праграмовай абдумасьці.

І вось, калі духаўнік наш, пасьля прыняцьця хоць часткі гэтага, зразумее яшчэ неабходнасьць зьбліжэньня духовага з народам і чыста вонкавае, ён выканае наказ хвіліны, ён сплоніцца з народам у адно неразарвальнае цела, адпорнае на ўсе напасьці і яно, гэтае цела пераможа сучасны крызыс. Толькі пасьля гэтага народ выкажа ўжо пэўнаю прывязаннасьць і, таму маральнае, нават матэрыяльнае, падтрыманьне свайго духаўніка. Толькі пасьля гэтага можна будзе сказаць тое, што павінен з свайго боку выканаць народ, каб яшчэ мацней увекавачніць і зглыбіць саюз з пастырам. Урэшце гэта наступіць само сабой, бо народ сам ацэніць свайго духаўніка і падпарадкуе яму сваю любоў і сілы. Пакуль-жа духаўнік аплаты за трэбы будзе ставіць вышэй свайго місыянэрства, адкідаючы вышэй пры.ведзенае і ня прызнаючы беларускасьць свайго пасомага, да тае пары аб заканчэньні крызысу ня можа быць і мовы. Наадварот, крызыс гэты будзе у хуткім тэмпе зьвялічвацца, і расьці, хоць і невідавочна на вонкі, і можа выліцца пры першым глыбейшым сутросе ў формы падобныя на Ўсходзе.

Неразвязаньне пытаньня крызысу духоўна-рэлігійнага зьяўляецца, трэба ведаць, і прычынаю нашае расьцярушанасьці і нездэцыдаванасьці, набіраючых формы нейкае бязмэтнае блутаніны і вэгэтаваньня, якія ў свой чарод вельмі адбіваюцца нават і на жыцьці эканамічным і духовым наагул. Апроч таго, трэба памятац, што разьвязаньне крызысу гэтага выпала на часы, калі наагул важацца лёсы градучых пакаленьняў, далейшая будучыня сусьвету і людзкасьці. Ад таго, што сяньня зробяць бацькі і ў якой плошчы, залешыць быцьцё дзяцей і ўнукаў. Сяньнь нашыя ахвяры і ахвярнасьць павінны быць больш вялікшымі чым калі, бо нашая пасыўнасьць, нашая засьлепленая пагоня за хлебам, наш жыцьцёвы эгоістычна-плыткі фармалізм могуць быць катастрофаю для нас і наступных пакаленьняў. Хаос і цемра могуць перамагчы сонца праўды і сьвятасьцяў. І таму наказам хвіліны ёсьць неадкладнае і аканчальнае разьвязаньне крызысу жыцьця духоўна—рэлігійнага. Разьвязаць яго павінен ў супольным высілку духаўнік і народ. На-

род-жа наш ужо даўно чакае на гэтае супрацоўніцтва і таму цяпер павінен забраць голас перадусім пастыр. Ці гэта наказ хвіліны выкажа наш пастыр, скажа гісторыя і ў першую чаргу будучыня гэтага пастыра, які будзе адказным і за лёс наступных пакаленьняў, і за падставы жыцьця беларускага Народу. і наагул за лёс Праваслаўя на Беларусі,

Студзень 1932 г. *С. Сарока*

# Ц. Б. П. К. і ДУХАВЕНСТВА

Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт, які быў закладзены дзеля змацаваньня на Беларусі Праваслаўнае Царквы праз беларусізацыю яе жыцьця, а не службы, як такое, добра разумеў, што гэта можна выканаць поўнасьцю толькі ў саюзе з духавенствам і сумеснаю з ім працай. І таму вось, яшчэ ў пэрыяд закладзіну Камітэту, перад зьездам 14 сакавіка 1930 г., сябры ініцыятыўнае групы ў гэтай справе вялі адпаведныя конфэрэнцыі і перапіску з духавенствам, каб з помаччу яго паўней распрацаваць праграму працы зьезду і будучага Камітэту. За некалькі дзён да зьезду старшыня ініцыятыўнае групы п. Т. Вернікоўскі ў гэтай справе быў прыняты арх. Хвядосам. Арх. Хвядос тады згадзіўся на прадложаны яму плян працы і нават даў сваё багаслаўленьне новазакладанаму Камітэту і згоду на ўдзел ў ім духавенства. Былі неадкладна высланы аб гэтым паведамленьні некаторым прадстаўнікам духавенства з просьбаю прыбыцьця ў Вільню на зьезд. Прыехала тады ў Вільню нешта каля дзесяці сьвяшчэньнікаў і куды больш прадстаўнікоў ад беларускае вёскі—людзей сьвецкіх. Але неяк раптоўна і неўспадзеўкі арх. Хвядос у дзень зьезду, калі да яго зьявіўся адзін з духаўнікоў, адмовіў у багаслаўленьні зьезду а духавенству забараніў быць прысутным. Калі-б гэта было пасьля зьезду, тагды-б арх. Хвядос мог-бы тлумачыцца, што зьезд быў варожа настроены да духавенства і т. д. Але калі гэтая адмова была ім вынесена перад працамі зьезду і да таго пасьля асабістых гутарак і абяцанак ініцыятарам гэтага зьезду, дык адмову гэтую можна тлумачыць толькі злой воляй людзей, якія проста пабаяліся лучнасьці народа з духавенствам, якое праз гэта толькі ўзмацавалася б і стала больш адпорным перад вызыскам сільнейшых. Ня дзіва, што пасьля гэтага зьезд досыць востра зарэагаваў на гэтую адмову арх. Хвядоса. Аднак першапачаткавы намер супрацоўніцтва з духавенствам быў на зьездзе выразна падкрэсьлены. Гэтак высылаецца прывітальная тэлеграма Блаж мітр. Дзіанісу, на першага віцэ-старшыню завочна выбіраецца сьв. А. Коўш, у рэзалюцыі запэўняецца духавенству падмога ды падтрыманьне і абарона яго правоў. У афіцыяльным дакладзе на зьездзе, пазьней выбраны на віцэ-старшыню Камітэту гр. У. Більдзюкевіч, чытае наступнае: „мы хочам мець духавенства... якое стаялабы блізка да народу і было бы яго першым сябрам і дарадчыкам“... Пазьней ужо ў перадавіцы № 1 „Сьветач Беларусі“, органе Цэнтр. Бел Прав. Камітэту, мы чытаем ізноў: „...абраны на зьездзе 14 сакавіка г. г. Ц.Б.П.К... заклікае ўсіх да працы на царкоўна-нацыянальным грунце з мэтаю абароны Царквы, пашырэньня і паглыбленьня Праваслаўнае Веры праз збліжэньне духавенства з народам, агульнае падтрыманьне тых забітых у вясковай глушы духаўнікоў...“ і т. д.. У № 2—3 „Сьветач Бел.“ мы бачым на першым месцы афіцыяльны „Заклік да Пастыроў і Верных“, зьмешчаны Цэнтральным Бел. Правасл. Камітэтам. і тут мы спатыкаем наступныя сказы: „..Дарагія і паважаныя пастыры Беларускага Народу! Мыклічам Вас да працы, цяжкае і ахвярнае працы з намі... мы жадаемо з Вамі супрацоўнічаць, а не змагацца з Вамі, як гэта прадстаўляюць Вам тыя, каму і надалей, дзеля сваіх уласных матэр'яльных ка-

рысьцяў хочацца трымаць Вас у ярме, кідаць Вамі як шчапьём, цягнуць з Вас апошнія грошы і дабытак... Мы вам прыдзем на падмогу, каб супольнымі сіламі бараніць сьв. Праваслаўе перад тымі, хто з вас зрабіў пад'ярэмнікаў, хто кінуў Вас і трымае пад уціскам маральным і матэр'яльным... Браты Праваслаўныя!.. мы Вас клічам да працы з намі і з сваімі духаўнікамі. Большасьць пастыроў Вашых душой Вам блізкае і аддадае, толькі ворагі і прыгоншчыкі іх і нашыя зрабілі Вас ворагамі Вашага пастырства... Пастаімо за волю нашых пастыроў, каб яны вызваліўшыся, маглі зрасьціся з намі ў вадно цела і душу, маглі пастаяць і павясьці Вас за Волю нашай Царквы і айчыны. Вы павінны горача запратэставаць.. супроць выкіданьня нашымі ворагамі з Вашых прыходаў Вашых пастыраў"... і т. д. і т. д. Як бачым з гэтага заклiку, камітэт ня тое, што варожа ўстасучковаецца да духавенства, але ставіць яго на чале нашага адраджэньня рэлігійнага і нават нацыянальнага. Камітэт заклікае Народ да актыўнага выступленьня і падтрыманьне свайго пастыра перад уціскам і вызыскам нягоднасьці сільнейшых. Большых доказаў прыхільнасьці да духавенства хіба і ня магло быць. Выраз гэтага мы знойдзем у кожным нумары „Сьветача Беларусі". На заклік Камітэту, трэба прызнаць, духавенства сельскае адклікнулася досыць шчыра. У Камітэт пачалі надсылацца лісты і карэспадэнцыі, розныя парады і пажаданьні, а сьвяшчэньнікі больш гарачыя задэкляравалі нават свой удзел у Камітэце, ня гледзячы на тое, што іх за гэта магла спаткаць кара з боку Віл. Кансысторыі. Цэлы рад сьвяшчэньнікаў пры сваіх прыходах закладаюць папрыходныя Камітэты, філіі Ц. Б. П. К. Шмат сьвяшчэньнікаў пачынае выпісываць „Сьв. Бел.", рэгулярна аплачываючы і вядучы з ім карэспандэнцыю. Некалькі манахаў з праваслаўных манастыроў пішуць ў Камітэт стала і рэгулярна захопленыя лісты і пажаданьня. Праўда, адбываецца гэта ўсё неяк у суціху, быццам канспірацыйна. Гэта зразумела! Віл. Кансісторыя за зносіны з Камітэтам сурова карае. Але паміма нават невідавочнага на вонкі кантакту з духавенствам, кансысторыя вычувае гэта і пачынае наладжаныя зносіны разьбіваць. Высылаюцца на правінцыю сотні згары ўложаных пратэстаў супроць Камітэту і духавенства змушаецца да падпісыванньня іх. Нават даходзіць да таго, што подпіс пад такі пратэст адбіраюць гвалтам ад канаючага сьвяшчэньніка (сьв. Каранцэвіч), нялічучы іншых большых і меншых рэпрэсыяў і зьдзекаў. Але ня гледзячы на гвалты і зьдзекі, такіх подпісаў пад пратэсты дае ледзь-ледзь 30 % усяго духавенства Віл. Эпархіі, ды і то большая палова з падпісаўшыхся прысылаюць у Камітэт лісты з перапросінамі і тлумачаньнямі ўчыненага над імі гвалту. З гэтага ясна мы бачым, што замест разьбіцьця супрацоўніцтва з духавенствам. Віл. Кансыс орыя толькі змацавала і яшчэ больш неразарвальна зьвязала гэты саюз а Камітэт яшчэ вышэй паставіла ў вачох духавенства і грамадзянства.

Камітэт з свайго боку прыхільнасьць да духавенства выявіў больш чым паўней. Цэлы чарод духаўнікоў, прыежджаючых ў Вільню дзеля ўладжаньня сваіх справаў, зьвяртаецца ў Камітэт, які і перад уладамі духоўнымі і асабліва цывільнымі дапамагае сьвяшчэньнікам здабыць прошанае. Дзякуючы інтэрвэнцыі Камітэту, шмат духаўнікоў здабывае „obywatelstwo", шмат з іх вызбаўлялася ад зьдзеку і глуму сільнейшых. Камітэт пратэстуе няраз супроць безпадстаўнага перакідыванньня духавенства з прыхода на прыход. Разам з тым Камітэт вядзе ўсільную працу дзеля афіцыяльнага і адкрытага супрацоўніцтва з духавенствам. Зазначым што Камітэт сваю місыю выканае, духавенства яго падтрымае, бо праца Камітэту, нялічачы памылак мімавольных, была заўсёды абапёртая на гарачым каханьні Царквы і яе служыцеляў.

# ВЫПІСКА З МЭМОРЫЯЛУ Ц. Б. П. К.

„Ад пачатку свайго заснаваньня камітэт, маючы на мэце выключна дабро Царквы, імкнуўся да суменнае працы з Эпархіяльнаю ўладаю. Калі гэтая праца не наладзілася, Камітэт часам востра змагаўся з гэтаю ўладаю, але гэтае змаганьне вялося ў імя ідэі паглыбленьня рэлігійнае сьвядомасьці сярод народу, зьбліжэньня духаўніка з прыхаджанамі, павялічэньня яго ўплыву на прыхаджан, маючы на мэце выключна дабро Царквы, духавенства і народу.

Аб гэтым сьведчыць статут камітэту.

Згодна з пунк. I. свайго статута камітэт прызнае; „Ненарушымасьць догматаў, кананаў і абрадаў Праваслаўнае Царквы, а таксама Аўтакефалію Праваслаўнае Царквы ў Польшчы і Яе Главу ў асобе Мітрапаліта.“

Згодна з пункт. статута, камітэт мае на мэце; „Абяднаньне праваслаўных беларусаў дзеля абароны Сьвятой Праваслаўнай Веры, узмацненьне паміж імі хрысьціянскае маралі на грунце нацыянальным, зьбліжэньня духавенства з народам праз вызначэньне прыхільных да народных звычаяў і традыцый, ня супярэчных хрысьціянскай маралі, духаўнікоў, падаваньне Праваслаўнаму народу прыкладу добрага хрысьціянскага жыцьця і ўзаемнай дапамогі і пашырэньне рэлігійна-нацыянальнае сьвядомасьці наагул. Камітэт бароніць і абстойвае правы Праваслаўнае Царквы, Яе маемасьці, духавенства, асабліва беларускага, і праваслаўнай беларускай людзкасьці перад уладаю Дзяржаўнаю“ і г. д.

Нязменнай мовай у Багаслужэньнях і ў прыватных малітвах Камітэт лічыць мову славянскую.

29 сьнежня 1931 г. Прэзыдыюмам Камітэту была асабіста дадзена характарыстыка, працягнуўшай у апошнюю хвіліну свае рукі да справы праваслаўнае Царквы так званай „беларускай санапыі“,

Хто-ж такая гэтая санацыя, згуртаваўшаяся спачатку каля масонскага „Наперад,“ а пасьля „Беларускага Звону?“

Складаецца яна з некалькіх асобаў— палітычных банкротаў і шантажыстаў, якія нават не прабуюць адкінуць шмат разоў робленыя ім закіды крымінальнага характару,—атэістаў, безвызнанёўцаў, масонаў, у лік гэтае групы ўваходзяць дырэктары Віленскіх Беларускіх сярэдніх школаў і некалькі вучыцялёў.

Яшчэ ня так даўно гэтая група стаяла на каленах на мэтадыскіх багаслужэньнях. Мала атрымоўваючы за гэта ад мэтадыстаў, яна паставіла стаўку на камуністаў. Страціўшы і ў іх ласку, гэтая група абаперлася на палякоў. Апошнія хутка раскусілі яе маральную вартасьць і выдачу грошаў спынілі. Адначасна сябры гэтае групы пачалі ўступаць ў рады масонства, гэта не перашкодзіла ім вясьці перагаворы са Львовам, прапануючы за грашовую дапамогу рабіць беларускую вунію. Ведаючы ўдзельную вагу гэтае групы, кандыдаты якой пад час выбараў у Сойм і Сэнат сабралі па пару сот галасоў, а таксама рэлігійнасьць і мараль яе сяброў, зробленую прапазыку аб вуніі прызналі за прафанацыю і грошаў не далі.

Успомненай масонскай групе як у польскай, так і беларускай прэсе „Дзеньнік Віленскі“ № 51 за 1929 г., „Беларуская Крыніца“ № 9 за 1930 г., „Голас Праўды № 5 за 1931 г. „Праўда“ ад 12 траўня 1931 г., „Беларуская Праўда“ ад 12 траўнь 1931 г. і шэрэгу іншых) высунены абвінавачаньні ў тварэньні камсамольскіх гурткоў сярод вучнёўскае моладзі, пашырэньне бязбожжа, масоньсьцьве і г. д.

Як адносіцца да рэлігійнага выхаваньня вучнёўскае моладзі санацыйна—масонская група, часткова было высьветляна на агульным сходзе бацькоў 4-х 1931 г. катэдрантам Багаслоўскага Аддзелу Дзяржаўнага ўнівэрсытэту і вуч. Віленскае Дух. сэмінарыі грам. Станкевічам, паслом ф Ярэмічам, старшынёю Белар. Студ. Саюза Б. Арэням, гр. Акінчыцам і інш. Становіцца жудасна ад таго, як калечацца душы моладзі. „Пойдзем гуляць у малітву“, гавораць, сьмяючыся ў прысутнасьці вучняў іх вучыцялі, ідучы на малітву. „Пойдзем сяньня ў Царкву не маліцца, але хвалц-

ца, што ў нас ёсьць свая Царква", кажа дырэктар Гімназіі Міхалевіч ўсёй клясе на лекцыі.

У пачатку гэтага школьнага году пэдаг. Рада выносіць пастанову абмежаваць службу у Царкве для вучняў адным разам у месяц. Сучасны законавучыцель о. Н. Кульчыцкі не пратэстуе супроць нячуванага умешацельства безрэлігійных элемэнтаў ў справы рэлігійныя. На паседжаньні пэдаг. Рады 9Іх 1931 г. дыр. Гімназіі Міхалевіч заяўляе, што можа абыйсьціся і бяз рэлігіі. Адзін з вучыцелёў ставіць двойкі тым вучням, якія слова „Бог" пісалі з вялікай літары. Адначасна з гэтым кожную суботу і ў дні прадсьвяточныя падчас службы ў царкве усенашчнае ў Гімназіі ладзяцца вечарыны са скокамі да раніцы.

Такое выхаваньне вучнёўскае моладзі зьяўляецца толькі часткаю выкананьня масенскаю групаю агульнага пляну вытраўленьня, па прыкладу камуністаў, з душаў беларускага народу хрысьціянскае маралі. Найяскраўшым доказам зьяўляецца прэса масонска—атэістычнае групы. У №3 „Наперад" ад 23 1 1930г., гэтая група зьмяшчае адозвы з заклікам байкатаваць выбары на Сабор. У № 20 „Наперад" зьмешчана дамаганьне гэнае групы аб замене Кансысторыяў Эпархіяльнымі Радамі. А у № 27 тае-жа газеты зьмешчана пастанова агульнага сходу масонскае групы аб „адзяленьні Царквы ад Дзяржавы і Вызваленьні школы ад Царквы"

Для усіх зразумела, што людзі з такімі поглядамі ня мелі права ні раней а тым балей ня маюць яго пасьля прыняцьця вышэйпрыведзенай пастановы забіраць голасу ў справах царкоўнага жыцьця але для гэтага трэба мець маралнны прынцыпы. Зразумела і тое, што гэтаю групаю вялося і вядзецца змаганьне ня дзеля направы царкоўнага, жыцьця, не з паасобнымі неадпаведнамі адзінкамі, а з самай ідэяй хрысьціянства з мэтаю яго разбурэньня і нішчэньня.

Дзеля дасягненьня свае агіднае мэты масонска-атэістычная група пастанавіла дабівацца ў Віленскую Канцысторыю паслухмяных сабе сяброў з ліку „тоже белоруссов" каб пасьля праз іх самым заняць пасады кансысторскіх урадоўцаў з мэтаю разбурэньня Праваслаўя...

Аб шчырым жаданні і імкненьні камітэту да супрацоўніцтва з Духоунаю уладаю-Цэнтр. Белар. Прав. Камітэт мае гонар прасіць даложыць яго Влажэнству Блажэннейшаму ўладыцы Мітрапаліту.

Публікуючы вышэй прыведзяную выпіску, камітэт прапануе асобам, чуючым сябе абражанымі, пацягнуць яго да судовае адказнасьці.

# ЗЛО ВІЛЕНСКАЙ ЭПАРХІІ

Гэткім назовам карыстаецца сябра Віл. Кансысторыі прат. Кушнёў сярод духавенства Эпархіі.

З „слаўнай" дзеяльнасьці прат. Кушнёва высьвятлім пакуль толькі частку.

У № 25 газэты „Нашае Врэмя," за 1932 г. зьмешчана пісьмо прат. Кушнёва, у якім ён паклікаючыся на дакумэнты даказвае сваю чысьціню ў справе ліквідацыі ім Эпарх. Складу, але, трэба сказаць шчыра, да чысьціні сапраўднае яшчэ далёка.

Кампрамітуючыя прат. Кушнёва вынікі Рэв. Камісыі змусілі яго бараніцца судова. Але робіць гэта ён вельмі арыгінальна і, як заўсёды, ня шчыра. Замест таго, каб пацягнуць да суду Рэв. Камісыю або прасіць сваю Дух. Ураду аддаць яго пад суд, прат. Кушнёў зьвяртаецца безпасярэднія да судовых уладаў з просьбаю паставіць яго ў стан абвінавачаньня („oskarżenia"), добра ведаючы, што без абвіноўцы пасілковага („oskarżyciela posiłkowego"), г. зн. Кансысторыі, вытачэньне справы зьяўляецца немагчымым.

Разгледзеўшы справу, Судзьдзя Следчы 1 Акругі м. Вільні пісьмамі ад 7 XII 31 г. за № 916 і ад 17 XII 31г. за № 950 паведаміў Кансысторыю, што справе можа быць паданы далейшы

бег толькі тады, калі Кансысторыя на падставе арт. 70 і 272 К. К. падтрымае абвінавачаньне (prawo oskrżyciela posiłkowego) супроць прат. Кушнёва.

У пісьме Судзьдзі Сьледчага за №916 вызначаны сямёх дзённы тэрмін і на падтрыманьне абвінавачаньня. Замест падтрыманьня абвінавачаньня Кансысторыя, г. зн той-жа прат. Кушнёў, ня гледзячы на тое, што мае свайго юрысконсульта, прытварылася неразумеючай гэтае справы і запрасіла Судзьдзю Сьледчага вытлумачыць, што гэта значыць. На паўторнае пісьмо Судзьдзі за № 950 Кансысторыя толькі па паседжаньні ад 2. II 32 г: пастанавіла наступнае: прымаючы пад увагу, што сямёх дзённы тэрмін для скарыстаньня Кансысторыяй з права „oskarżyciela posiłkowego“ ў часе перапіскі ўжо ўплыў, дык Кансысторыя пазбаўлена магчымасьці скарыстаць з свайго права, як зароўна і абгаварываць яе па сутнасьці, а таму пісьмо Судзьзі Сьледчага прыняць да ведама.

Трэба зазначыць, што ў пісьме Судзьзі Сьл. за № 950 тэрмін сямёхдзённы ўжо ня быў вызначаны.

З вышэй прыведзенага відаць, што прат. Кушнёў сумысьля прасіў паставіць сябе ў стан абвінавачаньня, наперад ведаючы, што Кансысторыя абвінавачаньыня супроць яго ня зможа падтрымаць і не падтрымае, што, як бачым, і сапраўды сталася. І толькі дзякуючы гэтаму, па фармальным прычынам і камбінацям прат. Кушнёва, а не па сутнасьці, справа ліквідацыі складу Суд. Уладаю спынена, але-ж гэта ня ёсьць ачышчэньне а толькі сьцьверджаньне вынікаў выкрытых Рэв. Камісыяй.

Але і Рэв. Камісыя выкрыла далёка ня ўсё.

10 VI. 29 г. прат. Кушнёў зләжыў у Кансысторыю ў справе складу паясьненьне ў якім цьвердзіць, што „долгов за складом не была нікакіх. „(Акт Комісыі от 10 II 25 г. подпісан членом Комісссіі г. Долгополенко)“ Адсутнасьць даўгоў каму колечы, а ў тым ліку і прат. Кушнёў, з боку складу сьцьверджана і перадатным актам Камісыі ад 28 VI 26 г.

Між тым 13. IX 26 г. адзін з духаўнікоў перадаў праз прат. Кушнёва свой доўг Складу у суме 145 зл. Прат. Кушнёў гэтыя грошы прысвоіў сабе, а складу выдаў на гэту суму-расьпіску з паясьненьнем, быццам склад вінен яму гэтую суму яшчэ з 1925 г.

Не абяліўся прат. Кушнёў і ад „недастачы“ дарахраніцельніцы, абразоў, кіётаў і ліхтароў, хаця-ж ён у сваіх дакладах, прадстаўленых арх. Хвядосу і праз яго Выш. Дух. Уладзе і тлумачыць „складскую справу“ інтрыгамі Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту, у той час, калі прат. Кушнёў Склад ўжо зьліквідаваў да заснаваньня (14 III 30 г.) Камітэту.

Апрача вышэй прыведзенага паўстае такое, зусім слушнае пытаньне: па акту 15 XI 26 г. перадана тавараў на суму 10.256 зл. 03 гр. і апрача гэтага 8015 экзэмпляраў кніжак і 23 прылады магазыну (шафы, вагі і інш.), якія ў гэтую суму не ўвашлі—дык калі прат. Кушнёў ачысьціўся, то куды дзеліся тавар, кніжкі і інш. або грошы за іх?

Прат. Кушнёву німа што дурыць людзей сваёй „чысьцінёй“. Ёсьць толькі адзіны магчымы спосаб для яго ачысьціцца: прыцягнуць да суду Рэв. Камісыю, і яна гэтага чакае.

Урэшце-ж ні адна толькі „складская справа,“ ад якое прат. Кушнёву патрэба „абяліцца“.

А калі-ж прат. Кушнёў абеліцца ад запратакалаванага на судзе студ. С. Сарокі хабарніцтва? Калі прат. Кушнёў пацягне да суду за абвінавачаньні крымінальнага характару пастаўленыя супроць яго ў аднаднёўцы „У імя праўды“ як і ў цэлым чародзе нумароў „Сьветач Беларусі“. Калі прат. Кушнёў абеліцца ад таго, што старшыня Камітэту Т. Вернікоўскі выступіў публічна і ў польскай і ў беларускай прэсе, называючы яго праваҡатарам.

Мы чакаемо, каб прат. Кушнёў хітра ставіў не сябе ў стан „oskarżenia“ а тых, хто высоўвае супроць яго гэныя абвінавачаньні.

Замест гэтага аднак, ён ідзе іншым шляхом.

У пададзенай ім ад 10. VI. 29 г. просьбе, прат. Кушнёў просіць арх. Хвядоса пытаньне пра Склад „разрешіть в. порадке своего лічнаго архіпастырскага

усмотренія", а ў ночку з 1 на 2 лютага гэтага году ў „Шляхэцкім Готэлі" ў Вільні, дзе эстанаўліваюцца благачынныя сябры зъезду, ён корна выпрашвае ад іх, каб яны вынесьлі яму падзяку за ліквідацыю складу. Гэтым прат. Кушнёў не абяляе сваю расу, а стараецца пералажыць нечысьць з сваёй расы на чужыя. Але калі яму ўдалося запэцкаць расу арх. Хвядоса, які сваёй рэзалюцыяй у свой час затушаваў складскую справу, дык духавенства на гэта не пайшло. Яно слушна адказала: „мы ня ведаем, як праходзіла ліквідацыя складу і выносіць вам падзяку ня маем падставаў, калі-бы зьезд вынес бы вам падзяку, ён гэтым зьняважыў бы сябе"...

Пішучы гэтыя словы, мы жадалі-бы каб прат. Кушнёў сапраўды абяліўся, бо мы, як праваслаўныя, гэтае неабяленьне прав. сьвяшчэньніка балюча адчуваем.

Антон Лінкевіч.

# Трагізм Віл. Белар. Гімназіяльнае моладзі

Нялюдзкімі высілкамі бел. грамадзянства здабыла для сваіх дзяцей гімназію ў Вільні. Нялюдзкімі высілкамі гэту гімназію прыходзілася на працягу дзесятка гадоў бараніць і ўтрымліаць пры жыцьцю. Але ня гледзячы на ўсё гэта, праца ў Віл. Белар. Гімназіі ішла ў прысьпешаным тэмпе, ішла ў захопленым разгоне здабыцьця асьветы для народу, духовае велічы для адраджаючайся бацькаўшчыны. Гэта была кузьня, дзе выкувалася і гартавалася маладая Беларусь, дзе выкувалася маладая думка, дзе Арсеньевы на ўвесь сьвет расплямянялі каханьне айчыны і беларускую красу. Гэта быў запраўдны пэрыяд самаахвяраў узгадаваўцаў і на ім абапіраючыйся ўзьлёт ad astra гадунцоў. І раптам...

У трагічных варунках сяньня ўзгадоўваецца моладзь у Віл. Белар. Гімназіі... З маладых гадоў прышчапляецца ёй усё ад'емнае і нізказёмае...

Але вініць у гэтым ані моладзь, ані грамадзянства мы ня маем права.

Бачучы, як калечацца ў Гімназіі душы моладзі, грамадзянства ўстрымоўваецца ад пасылкі туды сваіх дзяцей. З году ў год лік вучнёўскае моладзі зменшаецца. Калі раней пры 6 белар. гімназіях, ня меўшых да таго правоў, лік вучняў у Віл. Гімназіі дасягаў 300, то цяпер пры 2 гімназіях у Вільні і Наваградку, маючых навет правы, лік вучняў у Віленскай Гімназіі ледзь дасягае 150 асобаў.

У чым-жа прычына такога сумнага зьявішча? Можа ў культурна-нацыянальнай нясьвядамасьці ці рэгрэсу бел. грамадзянства? Хіба што не! Для ўсіх відавочна, што з году ў год культурна-нацыянальная сьвядамасьць у народзе зьвялічваецца і то досыць шпарка і дадатна. Тады можа прычына ў эканамічным крызысе? Бязумоўна, крызыс адбіўся на гэтым балюча і мае сваё значаньне, але факты гавораць нам аб іншым. Ня гледзячы на цяжкую эканамічную хвіліну, наша сялянства знаходзіць магчымасьць пасылаць дзяцей у польскія і расейскія школы, а чамусьці ўстрымоўваецца ад пасылкі іх у сваю беларускую гімназію. Значыцца прычына не выключна ў крызысе, а тым больш не ў адсутнасьці сьвядомасьці бел. грамадзянства, а ў тым, што, якраз дзякуючы сваёй сьвядомасьці, яно належна ацаніла запанаваўшыя цяпер у Віл. Гімназіі парадкі і ўзгадаваўчыя мэтады.

Галоўным і валікшым разбурыцелем Віл. Гімназіі ў апошнія два гады зьяўляецца яе дырэктар А. Міхалевіч.

Тут зробім малую дыгрэсыю. Найвялікшымі душыцелямі сялянства пры расейскім урадзе былі т. зв. земскія начальнікі. На іх пераважна выбіраліся розныя недавучкі—„матуліны сынкі".

Маючы ў сваіх руках судовую і адміністрацыйную ўладу, паходзячы пры гэтым з варожага да сялянства „дваранства", земскія начальнікі арганічна ненавідзелі „мужыка".

І вось з такою падгатоўкаю і з такімі вартасьцямі Міхалевіч, з земскага начальніка апынуўся, у ролі дырэктара Бел. Гімназіі, зразумела, што здабытыя ім на

папярэднім становішчы выхаваўча-ўзгадаваўчыя мэтады, Міхалевіч перанёс і на дзяцей народу, які так недаўна знаходзіўся пад апекаю земскага начальніка Міхалевіча, на абавязку якога было „тащить й не пущать“.

Каб незакінулі нам галаслоўнасьці, прывядзем тут некалькі фактаў з „пэдагагічнае“ дзеяльнасьці Міхалевіча.

У 1930 г. не здавальняючыся пасадаю дырэктара, ён выстаўляе сваю кандыдатуру ў сэнатары. Карыстаючыся дырэктарскай уладай, ён падчас адбываньня заняткаў, пасылае некаторых вучняў на правінцыю агітаваць за яго выбары ў сэнат. Ня гледзячы на гэта, зьбірае толькі пару сот галасоў. Гэткім чынам вучні ўцягваюцца ў палітыку, за якую пасьля выдаляюцца з гімназіі.

2) пад пагрозаю недапушчэньня вучня да матуральнага экзамену, змушае яго займацца з сваёй дачкой, абяцаючы яму заплату. Калі гэны вучань зарабіў 90 зл., Міхалевіч ня толькі адмовіўся заплаціць гэтую суму, а ўжо, стаўшагося студэнтам, гэтага вучня, некалькі разоў прасіўшагася аб звароце зробленых грошаў, праганяе нават з гімназіі. Аб гэтым пацярпеўшы злажыў скаргу ў Куратарыюм.

3) Высьмейвае ў клясе перад вучнямі нялюбых яму вучыцялёў.

4) Павыганяў вучыцеляў беларусаў, замяніўшы іх сваімі сваякамі, не беларусамі.

5) Атрымоўваючы дырэктарскую пэнсію, безплатную кватэру з асьвятленьнем і апалам, вызначыў сабе яшчэ 20 платных лекцыяў лацінскае мовы, але не выкладае і паловы з іх, хоць-жа грошы атрымлівае поўнасьцю. Гэтая манкіроўка лекцыямі, на шкоду вучыцялёў і вучняў, разам з тымі дэмаралізуе іх.

6) У характары вучыцеля лацінскае мовы, Міхалевіч, у часе візытацыі гімназіі прадстаўніком ад Куратарыюму, па цэлым тыдням, пакуль адбывалася візытацыя, трымаў усе клясы на адным і тым-жа матэр'яле, вызначыўшы ў кожнай клясе па некалькі вучняў і распрадзяліўшы між імі ролі, каго і аб чым будзе пытаць у прысутнасьці візытатара. Пасылаў адначасна вучняў праз дзіркі падглядаць дзе знаходзіцца візытатар.

7) Нетактоўна і дэманстрацыйна захоўваецца на вачох вучнёўскай моладзі з сваей прыяцелкай. Аб гэтым захаваньні падчас выезду з Вільні на правінцыю драматычнага вучнёўскага гуртка, у якім бралі ўдзел вучні і вучаніцы, сорамна і ўспамінаць.

8) Няроўна адносіцца да вучнёўскае моладзі. Атрымаўшы за год двойкі па дзьвум прадметам, вучань, згодна з правам, пакідаецца ў клясе на другі год. Сын прыяцелкі Міхалевіча пры пераходзе з 6 у 7 кл. атрымаў двойкі аж па чатыром прадметам. Пад націскам сваей прыяцелкі Міхалевіч у пач. 1931/32 шк. г. зажадаў ад адпаведных вучыцялёў зьмяніць адзнакі гэтаму вучню на задавальняючыя, дзякуючы чаму ён быў пераведзены ў 7 кл. Не згадзіўшаяся павысіць адзнаку вучыцелька нямецкае мовы, адна з найлепшых працаўніц у Гімназіі, гр. Банцлебэн, якая працавала дзесяць гадоў у гімназіі, была звольнена па нейкім прычынам з свае пасады.

9) Нейкім „цудоўным“ спосабам Міхалевіч знаходзіць камуністычныя адозвы ў інтэрнаце. Прадстаўляючы гэтыя адозвы адпаведным уладам, адначасна нішчыць і скрывае тыя адозвы, пашыраючыяся сярод вучняў, у якіх высьвятляецца „дзейнасьць і захаваньне“ самога Міхалевіча.

10) Выдаляе з гімназіі вучняў нават за няўзнос 3 (трох) залатовак, адводзячы адначасна з гэтым, коштам вучняў, клясовы пакой пад рэдакцыі часопісаў, нічога супольнага з гімназіяй ня маючых і для выхаваньня моладзі па свайму напрамку шкодных.

11) Разьвівае сярод вучняў падглядываньне і даносы аднаго на другога.

А вось адносіны дыр. Міхалевіча да ўзгадаваньня рэлігійнага моладзі.

„Пойдзем сяньня ў царкву не маліцца, але хваліцца, што ў нас ёсьць свая царква“, кажа ён усей клясе на лекцыі.

„Можна абыйсьціся ў гімназіі і без рэлігіі“, кажа ён 9. X. 31 г. на пасед-жаньні Пэдагагічнае Рады.

Згодна з прапановай Міхалевіча і пад

яго старшынством, зложаная ў большасьці неправаслаўных вучыцялёў, Пэдагагічная Рада выносіць пастанову, абмяжоўваючы багаслужэньні для праваслаўнае моладзі адным разам у месяц, а яго сваяк, законавучыцель сьв. Н. Кульчыцкі, нават і не пратэстуе супроць нячуванага ўмешываньня іншаверных і бязрэлігійных элемэнтаў у справы чыста праваслаўныя.

Больш яскрава аб усім гэтым было высьвятлена на агульным сходзе бацькоў 4. X. 31 г. катэдрантам Тэалёгічнага адзелу пры Варш. Ун. др. Я. Станкевічам, паслом Ярэмічам, старшынёю Бел. Студ. Саюзу Б. Арэням і інш.

„Пойдзем гуляць ў малітву“, кажа сьмяючыся вучыцелька гімназіі ў прысутнасьці вучняў і т. д.

Быў на гэтым сходзе прысутны і Міхалевіч і сьв. Кульчыцкі, аднак ніхто з іх гэтым высьвятленьням не запярэчыў, што найлепш гавора аб іх праўдзівасьці.

Вось толькі маленькая жменька фактаў з выхаваўчых мэтадаў дыр. Міхалевіча. Аб яго грашовым „гаспадараваньні“ падамо ў наступным нумары.

Нам будзе зроблены закід, што падаючы да публічнага ведама гэтыя факты, мы разбураемо гімназію.

Нам не аб развал гімназіі хо·дзіць а як раз аб яе захаваньне. Трэба праўдзе глядзець сьмела ў вочы! Тым больш калі гэта датычыць будучых барацьбітаў за правы Беларускага Народу; грамадзянства павінна не ўстрымоўвацца ад пасылкі сваіх дзяцей ў Белар. Гімназію, а пратэставаць супроць такіх Міхалевічаў, якія з гімназіі павінны быць выдалены, як людзі нашу моладзь, нашу красу і надзею, нягодна калечачыя! Гэтае калечаньне іх, абапёртае на матэр'яльных вырахунках, мы павінны трактаваць, як нацыянальную здраду бо калечаньне маладых душаў роўнасільна іх маральнаму і фізычнаму забойству. Супроць гэтага мы пратэстуем!!!

*В. Борвіч.*

# ПАСТАНОВА ЗЬЕЗДУ БЛАГАЧЫННЫХ ВІЛ. ЭПАРХ. 1—3 ЛЮТАГА 1932 Г.

Пратакол № 3. „Зьезд духовенства полагает, что проводнікомъ всякаго націонализма должен быть прежде всего сам народ, который в своё время безболезненно отразіт его в жізні церковной і введеніе хотя-бы офіціальнаго белорусскаго языка не сомненно породіт внутрі Церкві недорозуменіе, вызовет недовольство народа і поделіт чад Царквы на многочісленныя в этом отношеніі группіровкі; народ вполне довольствуется местным языком, значітельно розняшчымся от того белорусскаго языка, каторый прынят в современной белорусской мітературе.“

На гэнай пастанове арх. Хвядос 15 лютага г. г. налажыў наступную рэзолюцыю: „Утверждается“. Консісторыя пріготовіт для меня копію сего протокола А. Ф.

Вышэй прыведзеная пастанова можа быць названа гістарычнай, але ў найгоршым значэньні гэтага слова. Імкненьне, асобаў так няўдала кіруючых Віл. Эпархіяй, да захаваньня перажыткаў „єдіной і неделімой“, аб чым усьцяж пісалася ў „Сьветачы Беларусі“, найбалей яскрава і выразна выяўлена ў гэнай пастанове. 13-ёх гадовае істнаваньне Праваслаўнае Царквы ў межах незалежнае Польскае Дзяржавы гэтых людзей нічаму не навучыла. Яны і дагэтуль разважаюць мураўёўскімі катэгорыямі. Прынятая пастанова сьведчыць,

што яе тварцы ў ахвяру мураёўскай ідэолёгіі прыносяць справу Праваслаўя ў Польшчы, Беларускі Народ і інтэрэсы даўшай ім спакой і апеку Дзяржавы. Здрада іх ў адносінах да Праваслаўя выяўляецца у тым, што ў той час, калі каталіцкія духаўнікі, вуніяты і розныя сэктанты нясуць беларускаму Народу слова Божае ў беларускай мове ня толькі вусна, але і выдаюць ў гэтай мове шмат рэлігійных кніжак і часопісаў— у гэты час, праваслаўныя благачынныя Віл. Эпархіі, пазбаўляюць праваслаўных магчымасьці слухаць слова Божае ў беларускай мове, навязываюць яму чужую, маскоўскую мову, якая Белар. Народам не прынята, не гледзячы на 150-гадовае панаваньне маскоўцаў, іх школы, войска, урады і г.д. Адносячыся з лашанай да расейскай культуры, як і культуры іншых народаў, ня можна пагадзіцца, каб ў ахвяру гэнай культуры было прынесена Праваслаўе Беларускага Народу. Ня можна пагадзіцца з тым, каб дабро і будучыня Царквы на Беларусі вырашаліся ў плошчы задаволеньня амбіцыяў, вырашчаных гвалтам пережыткy, які быў і будзе чужым і нашаму Народу і нашай культуры.

Здрада тварцоў пастановы ў адносінах да Белар. Народу выяўлена ў тым, што ў той час, калі Беларускі Народ і яго прадстаўнікі, бяз рожніцы кірункаў, працуюць над адраджэньнем сваёй самабытнасьці і роднае культуры для прыўнясеньня праз гэта свае пасільнае лепты ў агульна-чалавечую скарбніцу культуры, калі народ наш імкнецца выявіць, у душу кожнага народу ўложаны Найвышэйшаю Істотаю, свой народны талент і геній, стараючыся трымацца пры гэтым на грунце Праваслаўя, кіраўнічая група яго духаўнікоў пад апекаю арх. Хвядоса фальшыва цьвердзіць, быццам „...введеніе хотя-бы офіцыяльнаго беларускаго языка несомненно.. вызовет недовольство народа...“

Гэныя людзі ніяк ня хочуць зразумець, ці не дарасьлі да таго, каб зразумець, што мова кожнага народу зьяўляецца яго прыроднай асаблівасьцю, дзеля выяўленьня паўнаты духовага жыцьця чалавека, а значыць, даламагае яго разьвіцьцю, узвышэньню да Богаупадобненьня, а таму і карыстаньне ею зьяўляецца абавязкавым перадусім у галіне жыцьця духовага народу.

Адкінуўшы беларускую мову, тварцы гэнае пастановы не асьмеліліся адкрыта замяніць яе моваю расейскаю, але захоўваюць апошняю ў царкоўным жыцьці замаскавана: „...народ вполне довольствуется местным языком, значітельно розняшчімся от того белорускаго языка, который прінят в современной белорусской „літературе“. Гэнай жа „значітельно рознящейся“ мовай ! ёсьць мова, якую ўжывае духавенства г. з. расейская.

Ці можна дзівіцца, пасьля аткрыта культываванага з верху пад апекаю Эпарх. Улады няпрызнаваньне роднае мовы народу, што народ адхінаецца ад духаўнікоў, што сярод Яго шырыцца рэлігійны індэфэрэнтызм і атэізм? Ці можна пасьля гэтага дзівіцца, што на народ наш маюць уплыў ўсе, толькі не праваслаўны сьвяшчэньнік?

Урэшце здрада ідэолягаў пастановы ў адносінах да дзяржавы выяўлена ў тым, што справы дзяржаўныя вымагаюць, каб Праваслаўе на Беларусі было моцным, каб беларускі нацыянальна— адраджэнскі рух разьвіваўся на засновах маралі хрысьціянскай каб існавала цесная сувязь духаўніка з народам каб на народ наш дадатня ўплываў ду-

хаўнік, а не элемэнты атэістычныя, варожыя ня толькі да рэлігіі, да нашага адраджэнскага руху, але і да дзяржаўнага ладу.

Галоўнымі ўдахнавіцелямі гэнае пастановы зьяўляюцца здаўна знаныя элеўфераўцы прат. Кушнёў і прат. Дзічкоўскі, які быў старшынёю апошняга зьезду, ды іх спадручныя сьв. Спрогіс і Балай. Аднак і інш. благачынныя таксама-ж ня дзеці, ведаюць, што падпісываюць, гэтак як Кансысторыя ведае каго вызначыць на благачыннага. І таму адказнасьць за гэную пастанову ляжыць ўсё цэла на благачынных, а не на ўсім духавенстве, бо апошняе благачынных не выбірае, а дзеля гэтага яны не выяўляюць ані голасу духавенства, ані тым больш—голасу Бел. Народу.

Нас вельмі дзівіць, якое права маюць а. а. Благачынныя Віл. Эпархіі нэгаваць беларускую мову ў царкоўным жыцьці, калі Сьв. Сынод яшчэ ў 1922—23 г. благаславіў духавенства ўжываць гэную мову, калі на літэратурнай беларускай мове Блажэнейшым Ўладыкаю мітрапалітам выдаюцца адозвы дзеля агалашэньня іх у Царквах. Якім чынам а. а. Благачынныя могуць ня лічыцца з наступнымі словамі, з агалошанае 1 жніўня 1928 г. Першасьвяцельскае адозвы. Блажэньняйшага Ўладыкі Мітрапаліта да духавенства Мітраполіі: „Адным з найдаражэйшых скарбаў... кожнага народу зьяўляецца яго родная мова... кожны... народ... павінен любіць сваю мову, вучыць яе і ўдасканаліваць... І з гістарычнага погляду, па самай сваёй сутнасьці рэлігійны бок жыцьця людзкога, як бок найінтымнейшы, павінен перад усім знайсьці выраз у роднай мове кожнага народу... Нажаль мы бачым, што нашая духавенства не заўсёды выкарыстоўвае адзін з найматутнейшых спосабаў уплыву жывым словам на сваіх прыхаджан дзеля падняцьця іх маральнасьці, занядбоўвае свой абавязак навучаньня слова Божага ў роднай мове. Таксама і выкладаючы дзецям закон Божы а. а. законавучыцелі павінны вясьці лекцыі ў роднай мове... Калі па Законам нашае Дзяржавы ў народных школах навучаньне вядзецца ў роднай мове вучняў, ці калі прынамсі ім выкладаюць іх родную мову, дык тым больш неабходна навучаць дзяцей рэлігіі ў роднай мове..."

І вось, ня гледзячы на гэтыя гістарычныя сказы Прэдстаяцеля нашае Царквы, ня гледзячы на адпаведныя пастановы Сьв. Сыноду, а. а. Благачынныя на чале з прат. Кушнёвым і Дзічкоўскім пастанаўляюць беларускую мову лічыць шкоднай для дабра нашай царквы, замяняючы яе мовай расейскай. Нэгуючы загады Прэдстаяцеля Царквы і сьв. Сыноду прат. Кушнёвы і Дзічкоўскія яшчэ раз заманіфэставалі свае амбіцыі, сваю безнаказнасьць.

Аднак найбольш абураючымі за пастановы а. а. Благачынных Віл. Эпархіі зьяўляюцца адносіны арх. Хвядоса. „Утверждается!" Што „утверждается?" „Утверждается" аслабленьне Праваслаўе на карысьць яго праціўнікоў? „Утверждается" ня прызнаньне мовы, а праз гэта і народу, на чале духовага жыцьця каторага архіяпіск. Хвядос пастаўлены? „Утверждается" ігнараваньне вышэй прыведзенае адозвы Першасьвяціцеля нашае Царквы да духавенства аб карысьці роднае мовы ў рэлігійным жыцьці? „Утверждается" ўрэшце тая шкоднасьць да дзяржаўнага ладу, якая ў пастанове выказана?

„Консісторія пріготовіт для меня копію сего протокола", піша далей арх. Хвядос. Дзеля чаго яна яму? На падставе гэнай пастановы арх. Хвядос ры-

хтуецца рабіць у Сынодзе даклад аб тым, што „введеніе хотя-бы офіціальнаго беларусскаго языка несомненно... вызовет недовольство народа“. Гэткім чынам, ня вышэйуспомненымі пастановамі сьв. Сыноду, ані прыведзянаю выпіскаю з адозвы Блажэннейшага Мітр. Дзяніса будзе кіравацца арх. Хвядос, але абражаючай Беларускі Народ пастанову а. а. Благачынных Віл. Эпархіі. У гэтым арх. Хвядосам выяўлена куды большая шкоднасьць для Праваслаўя на Беларусі, куды большая нетактоўнасьць да Найв. Духоўнай Улады і да інтэрэсаў Дзяржавы, чым была яна выяўлена ім у 1923 г., таксама на Эпарх. Зьездзе благачынных у Вільні, калі арх. Хвядос прызнаў сваю кананічную залежнасьць ад Ковенскага Элеўфэрыя.

Беларускі народ ня мае асаблівых падставаў, дзеля ўдзячнасьці Ураду Польскае Дзяржавы, але Найсьвяшчоншы арх. Хвядос, пастаўлены сьв. Сынодам і якраз Урадам у гэткія варункі, як вельмі ня многія з найбалей адданых Дзяржаве, польскія патрыёты! Дык хоцьбы справядлівасьць і то вымагае ад арх. Хвядоса, калі не ўдзячнасьці, дык хацяж вонкавае прызваітасьці, як да Найв. Духоўнае Улады, так і да ўпрывілеяваўшае яго палажэньне, Дзяржавы.

---

# Незразуменьне, ці злая воля

Наш артыкул „Справа Ўнійная“, зьмешчаны у № 2/4—1931 г. „Сьветача Беларусі“, яшчэ дагэтуль паддаецца крытыцы з боку заінтэрасаваных колаў, прычым некаторыя крытыкі абвінавачываюць Цэнтр. Б. П. К. ў ўхіле ў Унію.

У вышэйўспомняным артыкуле мы ўсебока і зусім аб'ектыўна указалі на ўсю нябясьпеку Уніі ў нас на Беларусі, калі унія стане на нацыянальны грунт.

Прайшло не шмат часу, а нашы вывады і прыпушчэньня падтвердзіліся.

Пастановы апошняй Уніяцкай канфэрэнцыі у Пінску сьцьвердзілі, што пашырэньне уніі на Беларусі магчыма толькі на нацыянальным грунце. Першыя рэальныя крокі у гэтым кірунку — гэта выданьне уніяцкага беларускага календара на 1932 г. і часопісі „Да Злучаньня“, ў мове беларускай.

Новы кірунак знаходзіць прыхільны водгук з боку нацыянальнай беларускай каталіцкай інтэлігэнцыі, якая гэты кірунак апрабавала і праводзіць у жыцьцё.

Нашая мейсцовая духоўная Улада, аб'еднаўшаяся з атэістычнымі і масонскімі беларускімі элемэнтамі, і успакоеная іх, елейнымі і, не зусім згоднымі з гістарычнай і сучаснай праўдай артыкуламі аб Уніі, у „Голасе Прав. Беларуса“ ніякіх рэальных крокаў барацьбы з новым кірункам уніі не падымае. Пастанова апошняга эпархіяльнага зьезду у Вільні, прыведзеная у гэтым нумары нашай часопісі найлепш сьведчыць, што захаваньне русыфікатарства у нашай Царкве, для Віленскай духоўнай улады важней, чым захаваньне самага Праваслаўя.

Мы б' радзілі ўсім нашым крытыкам яшчэ раз уважна прачытаць наш артыкул „Унійная справа“, і выстаўленыя у ім тэзы ўзяць за падставу для барацьбы з тым магутным праціўнікам сьв. Праваслаўя, якім зьяўляецца унія. Не па вурадніцкі трэба трактаваць дабро Праваслаўнай Царквы, не глядзець на Царкву толькі, як на крыніцу свайго дабрабыту, але трэба быць адданымі нашай сьвятой Царкве, і ўсе асабістыя свае імкненьні падпарадкаваць агульнаму вымаганьню цяперашняй сытуацыі, каб захаваць і узмацаваць сьв. Праваслаўе на нашых землях.

Камітэт блізка стаіць да беларускіх народных масаў, мае з імі безупынную

сувязь, і добра ведае аб настроях народу.

Праваслаўная Царква на Беларусі стаіць перад вялікай небясьпекай, і толькі супрацоўніцтва духавенства са шчыра праваслаўнымі беларускімі элемэнтамі, і праведзеньне у царкоўнае жыцьцё неабходных рэформаў у сэнсе беларусізацыі, можа ўратаваць, сьв. Праваслаўе ад адвечнага і вельмі нябясьпечнага праціўніка, якім у даную хвіліну зьяўляецца унія. У. Б.

# СПРОБА ЗГОДЫ

У зьвязку з апошняй пастановай сьв. Сыноду паміж духоўнай уладай ў Вільні і Цэнтр. Б. П. К. павеліся перагаворы аб спыненьні спрэчак і наладжаньні супрацоўніцтва для дабра нашай сьв. Праваслаўнай Царквы.

Выстаўленыя прадстаўнікамі Ц. Б. П.К. ў асобах гр. гр. Т. Вернікоўскага і У. Більдзюкевіча пастуляты Найасьв. арх. Хвядосу на аўдыенцыі 16 сьнежня 1931 г., былі прыняты і апрабаваны, і арх. Хвядос благаславіў правядзеньне іх у жыцьцё.

Тэзы гэтыя былі наступныя:

1) Віленская духоўная кансысторыя павінна стаць беларускай, з заменай афіцыяльнай мовы расейскай, на беларускую.

2) Пропаведзі у сельскіх прыходах павінны выглашацца у мове мейсцовага насельніцтва—у мове беларускай.

3) Афіцыяльнай мовай ў зносінах духавенства з народам і кансысторыяй павінна быць мова беларуская.

4) Выкладаньне рэлігіі у пачатковых школах павінна адбывацца у мове матчынай—ў мове беларускай.

5) Спыненьне прасьледаваньня беларускасьці сярод духавенства.

6) Вызначэньне Мікалаеўскай Царквы ў Вільні, як прыходскай для жыхароў Вільні—беларусаў.

Усе перагаворы вяліся пры пасярэдніцтве прот. М. Кушнёва, які ўдаваў, што ён шчыра стаў на беларускі грунт

У гэты час часопісь „Голас Прав. Беларуса", выдаваная атэістычна-масонскай групай, вела акцыю проціў прот. М. Кушнёва.

Як там вышла — мы не ведаем! Але прат. М. Кушнёў аб'еднаўся з выдаўцамі „Гол. Прав. Бел."

Факт той, што калі 29 XII—31 г. тыя самыя асобы гр.гр. Т. Вернікоўскі і У. Більдзюкевіч былі ізноў у Найсьв. ар. Хвядоса ў справе студ. С. Сарокі, то арх. Хвядос адмовіўся ад сваіх папярэдніх слоў, і заявіў, што гэта справа мітраполіі, і што быццам Яго Блажэнства Мітрапаліт Дзяніс проціў якой бы то ні было беларусізацыі Прав. Царквы.

І так зьмена арыентацыі прот. М. Кушнёва змусіла арх. Хвядоса адмовіцца ад свайго папярэдняга благаслаўленьня на правядзеньне у жыцьцё неабходных рэформаў у Віленскай Эпархіі, і нават змусіла абвінаваціць Яго Блажэнства Мітрапаліта Дзяніса у непрыхільнасьці да ўсяго беларускага.

На гэтым перагаворы Ц.Б.П.К. з мейсцовай духоўнай уладай і закончыліся.

# АГЛЯД ПРЭСЫ

У № 29 ад 27. XII 31 г. варш. газэты „Слово" ў артыкуле „з сучаснага царкоўнага руху на Беларусі" быў прыведзены цэлы рад не адпавядаючых праўдзе фактаў з дзеяльнасьці Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту. У сувязі з гэтым 29 XII 31 г. за № 72/31 быў пасланы Камітэтам для надрукаваньня ў „Слове" наступны ліст.

### Ліст у Рэдакцыю газэты „Слово"

У № 29 „Слова" ад 27 XII. 31 г. ў артыкуле пад назовам „З сучаснага цар-

коўнага руху на Беларусі“ былі пададзены нязгодныя з праўдаю весткі адносна Цэнтральнага Беларускага Праваслаўнага Камітэту ў Вільні, вось жа ў сувязі з гэтым Прэзыдыюм Камітэту не жадаючы ўваходзіць ў палеміку адносна шляхоў сваей дзейнасьці і іх ацэнкі, а апіраючыся на Уставы Прэсавага Права і Наказы Прэсавыя Прэзыдэнта Рэспублікі, ветліва просіць зьмясьціць наступнае выясьненьне.

1) „Няпраўдаю ёсьць быццам“.. з канца 1929 году так званая справа „беларусізацыі Царквы„ спачывае ў руках Цэнтральнага Беларускага Праваслаўнага Камітэту у Вільні, бо Ц. Б. П. К. ў Вільні быў закладзены толькі 14 сакавіка 1930 году на зьездзе прадстаўнікоў праваслаўнага насельніцтва Зах. Беларусі.

2) Няпраўдаю ёсьць быццам Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт ў Вільні сваю праграму праводзіў праз „аднаднёўкі“ („Проч з ліхазельлем“. „У імя праўды“). Успомненыя аднаднёўкі выданы без ведама і згоды Камітэту, аб чым можна пераканацца з адпаведнага лісту, зьмешчанага ў № 1 (4) „Сьветача Беларусі“ і з пратаколу судовае расправы над рэдактарам аднаднёвак.

Няпраўдаю ёсьць быццам Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт ў Вільні заклікаў да байкоту выбараў на Сабор, бо адозва аб байкоце выбараў на Сабор была зьмешчана ў санацыйным органе „Наперад„ у № 3 ад 22 студзеня 1930 году, калі Цэнтральнага Беларускага Праваслаўнага Камітэту яшчэ ня было. Кіраўнікамі гэтага органу якраз зьяўляліся асобы, сяньня закулісна кіруючыя „Голасам Праваслаўнага Беларуса“.

4) Няпраўдаю ёсьць быццам Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт ў Вільні „прысьвечае“ „Сьветач Беларусі“ прапагандзе вуніі. Праўдаю будзе, што бароняючы Царкву перад пагражаючымі Ей напасьцямі „Сьветач Беларусі“ зусім об'ектыўна высьвятляў захады і абставіны, ў якіх шырыцца справа вуніі, жадаючы гэткім чынам якраз ей запабегчы і праціставіцца.

5) Няпраўдаю ёсьць быццам мэтадамі працы камітэту было “падглядываньне ў чужыя кішані, за чужымі альковамі і т. п.“ Праўдаю будзе, што Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт ў Вільні, выходзячы з заложаньня, што пры сучасных абставінах Праваслаўе можна захаваць толькі пры цесным саюзе народа з беззаганным пастырам, няраз на старонках „Сьветача Беларусі“ падаваў факты крымінальнага характару, за якія ані пацягнута рэдактара да судовае адказнасьці, ані былі спраставаны. Камітэт лічыць, што народныя грошы празначаныя на мэты культу рэлігійнага і павінны быць на гэта празначаны.

6) Няпраўдаю ёсьць быццам дзеяльнасьць Цэнтральнага Беларускага Праваслаўнага Камітэту была арганізавана „па спэцыяльнаму“ заказу ня на карысьць Царкве... Праўдаю ёсьць, што Цэнтральна Беларускі Праваслаўны Камітэт ў Вільні сваю дзейнасьць апірае на постулятах, вынясеных на ўстаноўным зьездзе 14 сакавіка 1930 году, на якім і быў закладзены Камітэт.

круглая печатка

Старшыня(—) *Т. Вернікоўскі.*

За сэкратара(—) *Більдзюкевіч.*

З арыгіналам згодна

(—) *Т. Вернікоўскі* С. *Сарока*

Насупроць прэсаваму праву і агульна прынятаму звычаю, рэдакцыя „Слова“ гэтага лісту на сваіх старонках не зьмясьціла. Гэта насоўвае думку, што рэдакцыя „Слова“ не прыпадкова была ўведзена ў заблуджаньне, як мы хацелі думаць, праз свайго карэспандэнта, неасьведамленага ў царкоўных справах на Віленшчыне, але што рэдакцыя салідарызуецца з ананімнымі, ў нас для ўсіх добра вядомымі, выдаўцамі „Голасу Пр. Беларуса,“ якіх “Слово“ у сваім артыкуле „з сучаснага царкоўнага руху на Беларусі“ выставіла як новых абаронцаў Праваслаўя. Наколькі гэтыя людзі зьяўляюцца абаронцамі Праваслаўя, сьведчыць так сама зьмешчаная на старонках гэтае часопісі выпіска з мэмарыялу камітэту на імя Найсьв. Арх. Хвядоса і артыкул „трагізм віл. бел. гімн. моладзі“.

Належную ацэну „Голасу“ і яго выдаўцоў дала і „Бел. Крыніца“ ў № 4

ад 30 I. 32 г.

Словам, усё сапраўды хрысьціянскае і здарова-нацыянальнае ад гэтых „абаронцаў“ Праваслаўя адвярнулася і байкатуе іх, як масона—атэістаў як людзей прадажных, якіх імёны на Беларусі інакш і не ўспамінаюцца, як з агідаю і праклёнам.

„Голас Пр. Бел.“ гэта спроба скампраміатаваць рэлігійна—нацыянальны рух на Беларусі, разваліць і зьнішчыць Праваслаўе, як яны нішчаць бел. адраджэнскі рух наагул.

Належную ацэну гэтым людзям далі і а. а. Благачынныя Віл. Эпархіі на зьезьдзе 1—3 лютага г. г. Ня гледзячы на стараньні прат. Дзічкоўскага і Кушнёва прыняць гэтых „ прадстаўнікоў беларускага Народу,“ зьезд зусім слушна іх ані як рэлігійных, ані як прадстаўнікоў ня прызнаў, і ў прыняцьці на зьезд адмовіў. Адносна-ж таго, што з адзінкамі з „Голасу“ аб‘ядналіся вышэй ўспомненыя духаўнікі, дык людзей, ведаючых гэтых духаўнікоў, такое аб‘еднаньне ня дзівіць. Іх мараль і немагчымае захаваньне, ды да таго зробленыя ім у прэсе закіды характару крымінальнага, проста змушаюць іх шукаць падтрыманьня і ратунку ў тых, хто толькі на гэта згодзіцца. Раз знайшліся такія спасярод масона—атэістаў, гэтыя духаўнікі на іх усёцэла і абапёрліся.

Але праваслаўнай часопісі „Слово“ з імі не падарозе, як не падарозе з імі і і Найсьвяшч. Арх. Хвядосу, хоць-жа яго кандыдатуру гэтыя „абаронцы“ і намячаюць на Мітрапаліта.

Бязумоўна, ніхто з праваслаўных ня можа салідарызавацца з выдаўцамі „Голасу,“ які ў № 2 у спосаб вострыі бязпадстаўна крытыкуе пастановы Сьв. Сыподу і загады паасобных гіерархаў, высьмйвае і ганьбіць архім. Піліпа за тое, што той па хрысьціянскі зьбірае ахвяры на бедных і галодных, чэрніць пр. Краскоўскага, церпячага і так ад Эпарх. Улады за сваю прыхільнасьць да беларусоў, насьмяхаюцца з слабога здароўя сьв. Ул. Беляева.

Захапляцца гэткімі выдаўцамі німа падставаў прынамсі для нас хрысьціян.—

„Unia czy demonstracja“, пад такім назовам была выдана p. Wiktorem Piotrowiczem кніжка у польскай мове.— Аутар кніжкі ведамы сваімі частымі выступленьнямі у прэсе па справам ўнійным, і таму кніжка гэта выклікае асаблівую зацікаўлянасьць.—

Сучаные мэтады правядзеньня Уніі у жыцьці аўтар лічыць шкоднымі, бо яны адзначаюцца тэндэнцыйна русафікатарскім характарам. Кніжка выдана салідна і сур‘ёзна.

---

Ў Луцку заложана Т-ва ім. Мітрапаліта Пётра Магілы, якое мае на мэце цеснае супрацоўніцтва праваслаўнага духавенства з прыходжанамі. Афіцыёзам Т-ва. зьяўляецца часопісь „За Собрнісьць“!

Вышло ўжо два нумары.

Зьмест іх прысьвечаны вышэй успомненым мэтам і змаганьню з уніяй.

Выдаецца ў мовах украінскай, расейскай і беларускай.

---

# Справы Царкоўнага жыцьця

## Праўнае і матарыяльнае становішча дыяканаў і дзякоў

Трудна знайсьці людзей больш няшчасных і пакрыўджаных, як дыяканы і дзякі. Калі ня лёгко жывецца значнай частцы сельскіх сьвяшчэньнікаў, прафэсыянальна не зарганізаваных, ня маючых свае прэсы, а ні права голасу для высьвятленьня свайго цяжкага становішча, згвалчанага кансысторскім сваволь лем і падаткамі, дык тым цяжэй жыцьцё дыяканоў і дзякоў. Праўнай і матар‘яльнай рожніцы паміж імі апрача права дыяканоў на расу і даўгія валасы, амаль што няма. Матар‘яльна яны атрымоўваюць $^1/_3$ частку прычтавых даходаў.

З праўнага боку палажэньне дыяканоў і дзякоў яшчэ горшае, бо ў гэтым пытаньні права іх не абмежаваны нават і $^1/_3$ часткай правоў настаяцеля. А калі-б нават і прадбачана была для іх якая—небудзь частка правоў нестаяцеля, дык

практычнага значэньня яны ня мелі-б ніякага, бо як адзначана вышэй, настаяцелі самы акрэсьляных правоў ня маюць. Выкарыстаць-жа свае палажэньне над іншымі дыяканы і дзякі ня могуць, бо ня маюць асобаў ад іх залежных і ім падуладных. А між тым дыяканы і дзякі зьяўляюцца бліжэйшымі памоцнікамі сьвяшчэньнікаў і бяз іх немагчыма выконаньня царкоўнае службы.

На іх узложаны абавязак утрыманьня у царкве чысьціні і парадку, амаль усюды яны вядуць афіцыяльную царкоўную перапіску і мэтрычныя кнігі. Найчасьцей ад імя прычта дагаварываюцца по розным пытаньням з прыхаджанамі. Яны-жа зьяўляюцца кіраўнікамі царкоўных хораў. Усім ведама, як добра арганізаваны хор дадатна уплывае на лік і рэлігійны настрой веруючых у царкве. Словам, малодшыя сябры прычту, дыяканы і дзякі прызначаны адыгрываць вельмі дадатную ролю у прыходзкім жыцьці.

Каб яны сапраўды карысна маглі адыгрываць гэтую ролю, неабходна падтрыманьне іх з боку духоўных уладаў, пачынаючы ад настаяцеля.

Агульна безпраўнае іх становішча ляжыць па за межамі нашае унутранае царкоўнае палітыкі. Аб гэтым будзе пытаньне пры урэгуляваньні палажэньня духавенства наагул, а пакуль што неабходна выяўленьне максымальнае справядлівасьці і Хрыстовае любві да малодшага свайго сабрата—саслужыцеля з боку старшых.

Перакіданьня дыяканоў і дзякоў на падставе, часта не абапертай на праўдзе скаргі сьвяшчэньніка, бяз следства і суда, з аднаго канца эпархіі ў другі, зусім разбурае жыцьцё гэтых людзей, падрывае іх матар'яльна і калечыць духова, бо пасяляе у іх сэрцы перакананьне у несправядлівасьць духоўных уладаў.

Агульнае дабро Царквы вымагае, каб карысталіся аутарытэтам і пашанаю асобы, займаючыя ня толькі вышэйшыя, але і ніжэйшыя царкоўныя пасады. Недастача увагі, пашаны і справядлівасьці да сваіх малодшых саслужыўцаў з боку асобаў, займаючых вышэйшыя духоўныя пасады, падрывае у народзе веру і да апошніх.

## Да ведама „Воскреснага чтенія“

Зацемка, якая была надрукована ў „Воскресным Чтеніі“ за № 8 мела сваім заданьнем накрэсьліць сутнасьць Праваслаўна—Царкоўнага руху на Віленшчыне. Нажаль дадзеныя, якія там прыведзены гістарычна неправідловыя.

Царкоўна—Праваслаўны рух на Беларусі пачаў праяўляцца ад 1922 году. Праўда гэты рух ня меў арганізаванага характару аж да 1930 году, калі паўстала першая Праваслаўная арганізацыя Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт, а не група сьв. А. Каўша і Ф. Вернікоўскага, як аб гэтым піша „Воскресное Чтеніе“.

Да 1930 году рух гэты праўда ня быў выключна Царкоўна—праваслаўным бо ім цікавіліся і стараліся выкарыстаць яго з чыста палітычных пабудак, нашыя палітычныя дзеячы.

Цэнтральны Б. П. К. першы паставіў праваслаўна—царкоўны рух на апалітычны грунт, з адзінай мэтай узмацніць сьв. Праваслаўе у Заходняй Беларусі.

Як гэта ня дзіўна, але Ц.Б.П.К. прыйшлося павесьці барацьбу з Вілен Духоўнай Уладай, якая упарта не прызнавала за беларусамі права на нацыю і разглядала беларускі народ, як адно з племен рускага народа, „говорящім іспорченным русскім языком“.

Гэтую барацьбу спрабавалі выкарыстаць беларускія атэістычна—масонскія элементы, ворагі якой бы то ні было рэлігіі.

Каб разлажыць сьв. Праваслаўе і нарэшце зліквідаваць яго пад, плашчыкам абароны Праваслаўя сталі выдаваць сваю часопісь „Голас Праваслаўнага Беларуса“, у якім моцна нападалі на Ц. Б. П. К, як на адзіную праваслаўную арганізацыю на Беларусі. Гэта не барацьба з за якого-то „дележа“ як інфармуе „Воскресное Чтеніе“ а барацьба двух варожых кірункаў: бязбожнікаў з людзьмі веруючымі, гэта барацьба двух варожых ідэяў, атэізму з рэлігійнасьцю.

Потым інформацыя у „Воскресном Чтеніи“ зусім не адценяе існаваньня на

Віленскім грунце яшчэ адной моцнай групіроўкі — каталіцкай, якая паставіла сабе за мэту правядзеньне Уніі,—як нацыянальнай рэлігіі беларускага народу.

Усё гэта паказвае, што зацемку гэту пісала асоба, блізка стаячая да нашых кіруючых духоўных колаў, якія наагул лічуць, што на Праваслаўным фронце у нас ўсе супакойна, і што Праваслаўю у нас ніхто і нішто не пагражае, хацяж на кожным эпархіяльным з'езде ад сельскага духавенства ідуць скаргі, што рэлігійнасьць у народзе упадае, што бязбожніцтва ўсе больш і больш апаноўвае народныя масы, што агрэсыўнасьць каталіцтва ўзрастае з кожным днём, што Праваслаўю пагражае нябясьпека ліквідацыі.

Чаму аб гэтым нашая Духоўная ўлада замаўчывае перад Мітраполіяй нам няведама, і чаму аб гэтым не інфармуюць „Воскресное Чтеніе“—нас дзівіць? У. Б.

# БІГАМІЯ

У свой час ўся віленская польская прэса падала весткі аб бігамічным шлюбе, які быў дадзены ў Віл. Мікалаеўскай царкве.

Справа гэная бліжэй выглядае гэтак.

13 VIII 1931 г. да кіраваўшага тады Віл. Эпархіяй найсьвяшч. Уладыкі Александра, зьвярнуўся з пісьменнаю просьбай прат. Кушнёў аб дазволе павянчаць у гэты-жа дзень Гур'янава. Дзеньжа гэты быў праддзёнам паста і таму шлюб мог быць даны толькі з архірэйскага дазволу.

Уладыка Александр дазволіў выканаць у гэты дзень шлюб да вячэрні, пры захаваньні ўсіх абавязуючых фармальнасьцяў. Прат. Кушнеў уласнаручна на ўспомненай просьбе напісаў „препятствій нет“ і гэта падпісаў.

Дазвол Уладыкі Александра быў нарушаны ўжо тым, што Гур'янаў быў павенчаны не да вячэрні, але пасьля яе—позным вечарам.

15. VIII. 31 г. неразьведзеная, першая, жонка Гур'янова, Вэроніка, склала ў кансысторыі пратэст супроць павянчаньня яе мужа і разам з тым зьвярнулася да пракуратуры з просьбаю пацягнуць да судовае адказнасьці яе мужа за двужанімства.

Аддзел сьледчы, яшчэ ў верасьні 1931 г. зажадаў ад Віл. Кансысторыі выясьненьня аб шлюбе Гур'янова. Дзела таго, што адказным за гэны шлюб зьяўляецца сябра Кансысторыі прат. Кушнёў, таму Кансысторыя справу гэтую зацягнула аж па сяньняшні дзень. Дзеля віду сьледства ў гэтай справе было няпраўна даручана сваяку павянчаўшага прат. Дзічкоўскага, які нічога ў гэтай справе не зрабіў.

Сьвядомая зацікаўленасьць сьвяшчэньнікаў Мікалаеўскае царквы ў даньні бігамічнага шлюбу Гур'янаву відавочна з наступнага.

1) Просьба аб дазволе павянчаньня 13. VIII. 31 г. ад імя Гур'янава напісана рукою прат. Беляева.

2) Агалошаньні нібы чыталіся 8, 9 і 13 жніўня, з чаго толькі 9 жніўня было нядзеляй, а і 8 і 13 дні будзённыя, у якія служба ў Мікалаеўскай Царкве зазвычай ніколі не адпраўляецца.

3. Гэтымі-ж сьвяшчэньнікамі выяўлена чамусьці надзвычайная пасьпешнасьць; прат. Кушнёў выпрасіў дазвол ў арх. Александра на гэты шлюб у царкве Сьв.-Дух. Манастыра. Вось-жа ўся адказнасьць за гэны бігамічны шлюб ляжыць не на арх. Александры, як то, тлумачыцца прат. Кушнёў, бо дазвол Ўладыкі датычыў толькі да павенчаньня, г. зн. дня 13. VIII. 31 г., а не старараны фармальнае, а якраз уся адказнасьць ляжыць на прат. Кушнёву.

Згодна ж з § 188 Уставу для Дух. Кансысторыяў духаўнікі дапусьціўшыя бігамічны шлюб *пазбаўляюцца духоўнага сану*. Мы ведаем, гэтая кара прадбачана і стасуецца для іншых, але не для прат. Кушнёва, аднак хочам верыць, што ўсяму ёсьць граніцы.

У далейшым ў гэтай справе арх. Хвядос даручыў *толькі* „произвести дознаніе“ і *ізноў-жа прат Дзічкоўскаму*, які ўжо перад тым з ёй нічога не зрабіў.

Зьмешчанае ў № 38 за 1932 г. ў газ. „Dziennik Wil.“ паясьненьне прат. Кушнёва, быццам ён 13. VIII. 31 г. быў у атпуску, як і паясьненьні яго па іншаму,

зьяўляюцца *ілжывым* бо-ж яго асабістая просьба ў гэты дзень аб дазволе на бігамічны шлюб гаворыць іншае, не кажучы ўжо аб тым, што ён увёў у заблуджаньне і ашукаў Найсьвяшч. Уладыку Александра.

**Sets.**

# ХРОНІКА

У сьнежні м цы 1931 г. быў зложаны Яго Найасьвячонству арх. Хвядосу Цэнтр. Б. П. К. мэморыял, выпіска з якога прыводзіцца у гэтым нумары.

Памёр у Вільні вялікі патрыёта польскі і дастойнік Каталіцкага Касьцёлу біскуп У. Бандурскі. На хаўтурах біскупа Бандурскага прысутнымі былі Прэзыдэнт Польскай Дзяржавы І. Мосьціцкі, маршалак сэнату Рачкевіч і прадстаўнікі Ураду.

1—3 лютага 1932 г. ў Вільні адбыўся зьезд а.а. Благачынных Віленск. Эпархіі.

Найбольш цікавым мамэнтам на гэтым зьездзе было пытаньне аб беларусізацыі царкоўнага жыцьця.

Старшыня зьезду вядомы элеўфэр'янец прат. Дзічкоўскі ўнёс па гэтаму пытаньню прапазыку, што зьезд нічога не мае супроць беларусізацыі, але праводзіць яе павінны духоўнікі разам з народам, але дзеля таго, што народ, і яго „сапраўдныя" прадстаўнікі беларусізацыі ня хочуць, дык няма аб чым і гаварыць.

Тут-жа было пададзена, што ў прадпакоі чакаюць „сапраўдныя прадстаўнікі" Бел. Народу — Міхалевіч, Астроўскі і... Паўлюкевіч.

Ня гледзячы на „нажымы зьверху" а.а. Благачынныя, гэтую сьпеўшуюся закулісную кампанію з яе намерамі, разгадалі. Парадзіўшыся між сабой, згодна з прапазыкай аднаго з пратаіерэяў, яны зусім слушна адказалі, што вышэй успомненых асобаў, як людзей безрэлігійных, прадстаўнікамі праваслаўных беларусаў лічыць ня могуць, слухаць іх не жадаюць, і ў прыйме ім было адмоўлена.

Відаць цяжка прыходзіцца санацыйным „прадстаўнікам", калі нават у саюзе з Паўлюкевічам іх далей прадпакою не пушчаюць.

Вельмі характэрны кірунак у працах зьезду надавалі блізкія да арх. Хвядоса прат. Кушнёў і Дзічкоўскі. На банкеце ў арх. Хвядоса пілі за здароўе ўсіх, не выключаючы нават сэкратароў, але чамусьці ніхто ня ўспомніў аб Блаж. Мітр. Дзіанісу. Абавязак узьнясьці за яго тост ляжаў перадусім на арх. Хвядосу і яго блізкіх, але-ж іх настроі ведамы.

Кіраўнікі і ўдахнавіцялі зьезду праз увесь час туманна тлумачылі а.а. Благачынным аб нейкім нутраным ворагу, пагражаючым арх Хвядосу. Вось-жа, вельмі дзівіліся а. а. Благачынныя, што іх заклікалі да барацьбы не з вонкавым ворагам, пагражаючым Праваслаўю, а з нейкімі асабістымі ворагамі арх. Хвядоса. Гэтак а.а Благачынныя і разьехаліся па хатам, ня ведаючы, што гэта за такі нутраны вораг арх. Хвядоса, чаму ён для яго страшны, і чаму гэта абарона арх. Хвядоса важнейшая ад абароны Праваслаўя.

*Ігер.*

Як ведама, яшчэ ў жніўні 1931 г. Найсьв. арх. Александр зрабіў загад аб зьменьшаньні сябрам Віл. Кансысторыі пэнсыі на сто зал. у месяц кожнаму. Арх. Хвядос загад гэны ня прызнаў і ён быў адменены. На апошнім зьездзе а а. Благачынных прат. Кушнёў даказываў аб „блестяшчым" палажэньні кансысторскае касы і таму дзеля „падтрыманьня прэсьціжу арх. Хвядоса" прасіў а.а. Благачынных зацьвердзіць і на 1932 г. пэнсыю сябром Кансысторыі ў папярэднім разьмеры, г. зн. ня зьмяншаючы ім на сто зал., на што а.а. Благачынныя і былі змушаны згадзіцца.

Але як толькі а.а. Благачынныя разехаліся па дамох, той-жа прат. Кушнёў падаў арх. Хвядосу даклад аб „катострафіческім" становішчы кансысторскае касы.

Згодна з рэзалюцыяй арх. Хвядоса па дакладзе прат. Кушнёва, пэнсыя сябрам кансысторыі зьменшана.

Цікава, што азначае ўсе гэныя баламутства, супроць каго была скіравана на зьездзе гэная „дэмонстрацыя“ вернасьці арх. Хвядосу, ды калі гэтаму ўсяму будзе канец?

Пасьля выхаду № 1 масонскага „Голасу“, яго ананімнымі выдаўцамі пачалі распаўсюджавацца весткі, быццам грошы на выданьне гэтага органу атрымліваюцца з Мітраполіі. Гэткім чынам выдаўцы ананіма імкнуліся здабыць для яго прыхільнасьць грамадзянства. Ня гледзячы на парадаксальнасьць такіх вестак, можа хто і паверыў гэтаму. Але вось вышаў № 2 „Голасу“ і яго зьмест, са злоснай і рэзкай крытыкай дзеяльнасьці Найв. Дух. Улады, маючы на мэце падрыў аўтарытэту гэнае Улады, выявіў ілжу яго сапраўдных выдаўцоў. Хутка высьвятлілася, што 50 зал. на выдачу „Голасу“ атрымана ад таго пратаіерэя, пра абяленьне расы якога так усьцешыўся „Голас“. Апроч таго, як ведама рэдакцыя „Голасу“ месьціцца ў мурох Бел. Гімназіі, кіраўнікі якое справу выданьня „Голасу“ і параілі. Вось-жа цікава, што з восені 1931 г. між гэтым бязбожна-масонскім кіраўніцтвам і кіраўніцтвам Віл. Эпархіі завязалася вельмі падазроная прыязьнь — аж да грашовае запамогі, нібы „на карысьць незаможных вучнёў, з боку арх. Хвядоса, і тут мімаволі кідаецца ў вочы нейкі дзіўны „zbieg okoliczności“ ў справе гэтай дапамогі: пасьля выхаду № 1 масонскага „Голасу“ ад арх. Хвядоса атрымана на карысьць гімназіі 150 зал.. тое самае паўтарылася пасьля выхаду № 2, з той толькі рожніцай, што 150 зал. ахвяроўваецца ў два прыёмы.

Усе хіба добра яшчэ памятаюць субсыдываньне тымі-жа асобамі ў 1930 г. „Нашей Жізні“, якая вяла траўлю супроць Ц. П. Б. К.

Але калі ўжо дух. асобы дапамагаюць воргану, які мае на мэце змаганьне з Найвышэйшаю Дух. Уладаю, дык гэтым асобам бязумоўна ня месца ў правасл. Царкве.

Былы ўрадовец Кансысторыі Бохан за зацемку аб Мураванскай царкве аштрафаваны судом на 400 зал., якія сам і плаціць. А вось, за неаплачаныя падаткі, па „карысна зьліквідаванаму“ складу прат. Кушнёвым, у суме разам з прац.—261 зал., апісана кансысторская пішучая машынка. 16. II. 32 ад адпаведных Уладаў атрымана паведамленьне, што калі гэтая сума ня будзе заплачана да. 19 II., дык машынка будзе прададзена. Зразумела грошы гэтыя будуць заплочаны не „ліквідатарам“, прат. Кушнёвым, а з сумаў кансысторскіх. Нядзіва, што кансысторыя „ў катастрафічным“ палажэньні!

24 студзеня г. г. архім. Піліп Марозаў у Сьв Духавым Манастыры сказаў, надзвычай цікавую пропаведзь. Праводзячы аналёгію між кніжнікамі і фарысеямі часоў Ісуса Хрыста і сучаснымі бязбожнымі масонамі, архім. Піліп паказаў, што як першыя стараліся трымаць народ іудейскі ў цемры, змагаючыся з вучэньнем Хрыста, так і нашыя дамарослыя масоны і бязьвернікі стараюцца ўзгадаваць мол дзь у атэізме. Як тыя, будучы ў большасьці сваёй бязбожнікамі прыкідываліся рэлігійнымі, так і сучасныя масоны і атэісты для асабістых карысьцяў прыкідываюцца глыбока веруючымі хрысьціянамі.

Як на праяў масоншчыны архім Піліп паказаў на выходзячы ў мурох Бел. Гімназіі „Гол. Пр. Беларуса“.

Зацікаўленьне пропаведзьдзю было вялікае. Падыходзячы да крэста верныя горача дзякавалі архім. Піліпу за сказаную праўду. За гэта прыносім падзяку і мы.

Але як заўсёды, за праўду трэба цярпець. Вось-жа, супроць архім. Піліпа, масонскія „хрысьціяне“ пад „соболезнованьня“ Кушнёвых і Дзічкоўскіх выступілі з пратэстам за тое, што архім. Піліп меў сьмеласьць публічна бараніць Царкву Хрыста перад пасяганьнем масанэрыі. Як бачым, дзёрзасьць апошніх пераходзіць ўжо ўсялякія граніцы. Нялішнім тут будзе азначыць і тое, што апошнім часам архім. Піліп заняўся дабрадзейнаю працаю на карысьць безработных і бедных. Вось-жа, гэтая яго праца выклікала вялікае абурэньне на

шых апатэнтаваных „дабрадзеяў“ з ананімнага „Гол. Пр. Беларуса“. Замест ўдзячнасьці для духаўніка, дапамагаючаму бедным, масанэрыя пачала абліваць яго брудам, а „слаўны акадэмік“ Дзічкоўскі пры гэтым выстаўляе ёй фантастычнь апініі глыбокай рэлігійнасьці. Ня гледзячы на гэта, дзейнасьць архім. Піліпа належна ацэнена веруючымі. Сваё даверра яму яны выражаюць у тым, што прыхаджане Мікалаеўскае царквы пачалі зьбіраць падпісы аб назначэньні архім. Піліпа іх настаяцелем. Тое самае робяць і прыхаджане Катэдральнага сабору, якія нават пасылалі адпаведную дэлегацыю да арх. Хвядоса. Гэтак прыходжане пратэстуюць супроць Кушнёва і Дзічкоўскага за іх чулыя перашопты з масанэрыяй, якую прадстаўнікі сельскага духавенства выкінулі за дзьверы.

ꗃ „За Свободу“ і „Нашае Время“ падалі весткі, што сябрам Віл. Кансысторыі мае быць назначаны прат. У. Дзічкоўскі, які, як падае газ. „За Свабоду“, скончыў Духоўную Акадэмію яшчэ перад вайной. Адносна адукацыі прат. Дзічкоўскага, дык „За Свабоду“ мыляецца крыху. Ужо ў № 6 „Сьветач Бел.“ было выразна сказана, што прат. Дзічкоўскі тытул „акадэміка“ прысвоіў сабе самазванна і пасьля нашага разьясьненьня акадэміцкі значок, які ён раней насіў неправна, змушаны быў зьняць.

Дык цікава за якія заслугі ён мае быць сябрам Кансысторыі? Ня ўжо за тое, што катэдральны Сабор гэтак запусьціў, што балюча на яго глядзець! Ня ўжо за яго справедлівасьць, выяўленую ім хоцьбы ў адносінах да малодшага братаслужыўца псал. Ляшкевіча! А мо' за дапушчаную ім 28. I. 31 г. на імянінах псал. Кіршэўскага правакацыю! Можа за яго прыкладнае жыцьцё?

Нам здаецца, што прат. Дзічкоўскаму за шмат нават і сучаснага становішча благачыннага. А што гэта так, пераканаюцца нашыя чытачы з наступнага нумару „Сьв. Бел.“, ў каторым прат. Дзічкоўскаму і яго дзейнасьці будзе прысьвечаны спэцыяльны артыкул.

ꗃ Ад нядаўняга часу дыр. Міхалевіч і пара, пакуль што, стоячых за ім асобаў зблякаваліся з прат. Кушнёвым і Дзічкоўскім супроць беларусізацыі царкоўнага жыцьця. Саюз гэты зусім слушны. Яшчэ так нядаўна, 31 ліпеня 1926 г. за № 2555 ад імя Кансысторыі за подпісам пр. Кушнёва была выстасавана, датычучая памешканьня Гімназіі, папера, у якой між іншым сказана: „Духовная Консісторыя імеет честь уведоміть, што постановленіем ея от 23 іюля, утвержденным Его Высокопросвяшченством рэзолюціей от 26 іюля за № 3261 проэкт контракта... на отдачу в аренду... Белорусской Гімназіі... хотя уже подпісанный і соответствуюшчей подпісью утвержденный, Консісторіей прызнан недействітельным, как вредный“...

Калі толькі праэкт дагавора на памешканьне для Беларускай Гімназіі прызнан „вредным“ дык што можна сказаць аб шчырасьці наагул да Беларускага народу арх. Хвядоса і прат. Кушнева? Хіба ж гэтая іх шчырасьць такой жа вартасьці як і Міхалевіча.

ꗃ У працягу некалькіх гадоў выхаваўцам ў інтэрнаце пры Віленскай Беларускай Гімназіі быў скончыўшы яшчэ да вайны Духоўную Акадэмію грам. А. Вернікоўскі. Для новага, нэгуючага рэлігійнае узгадаваньне моладзі, кірунку у гімназіі, гр. Вернікоўскі быў перашкодаю, і таму нядаўна „дыр.“ Міхалевічам і яго дабрадзейнаю прыяцелкаю“ быў звольнены з свае пасады і выдаляны з кватэры.

На яго мейсца у інтэрнацкую кватэру паселяны гр. Крук, які нічога супольнага з інтэрнатам ня мае і па сваей палітычнай працы для вучняў вельмі шкодны. Памешканьне дано гр. Круку у кампэнсату за яго палітычную працу.

Апека спалэчная павінна зацікавіцца гэтым і патрэбаваць выдаленьня грам. Крука з інтэрнату.

ꗃ Найвялікшым баламутам у Віленскім Мікалаеўскім прыходзе зьяўляецца падручны прат. Кушнёва і яго прыяцель, нейкі эмігрант В. Стрыжак, абмаскоўляны нібы украінец, які аднак не знаходзіць сабе мейсца на украіне.

Пакуль што аб „царкоўнай“ дзейнасьці Стрыжака ведама толькі, што ў 1927 г. ён „выняс“ са Сьніпіскае Царквы і прысвоіў сабе царкоўныя ноты.

Калі прыхаджане на чале с царкоўным старастаю Рышкевічам і прадстаўніком паліцыі пайшлі на кватэру да Стрыжака, апошні спачатку сказаў, што ён нотаў не браў, але прыймаючы пад ўвагу заяву прадстаўніка паліцыі аб неабходнасьці зрабіць вобыск, Стрыжак змушаны быў прызнацца, што ноты з царквы „ўзяў“.

Частка нотных кнігаў перахоўвалася у Стрыжака, а частку ён аддаў на перахоў прат. В. Беляеву. І ад аднаго і ад другога нотныя кнігі былі адабраны, аб чым былі сьпісаны адпаведныя пратаколы і абвешчана у прэсе „Віленское Утро“ і „За Свободу“ (№ 96 ад 28 красавіка 1927 г.). За гэтыя рэчы Стрыжак быў выдалены з пасады рэгэнта Сьніпіскае Царквы. Аб расходаваньні ім зьбіраных з прыхаджан Сьніпішскае Царквы грошаў прыхаджане абецаюць даставіць нам падробныя дадзеныя ў наступны нумар.

## Яшчэ аб сьвяшч. Спрогісу

Рэдакцыяй „Сьветач Беларусі“ атрыманы ліст ад прыхаджан Княгінінскага прыходу на імя іх настаяцеля сьв. І. Спрогіса. Па недахопу мейсца ліст не зьмяшчаецца. У ім прыхаджане між іншым абвінавачываюць сьв. Спрогіса ў наступным:

1) Што ён пры савецкай ўладзе адмовіўся ад сана сьвяшчэньніка, ні разу ні заперэчаўшы публічна робленых яму закідаў у гэтай справе. Тлумачэньне-жа яго у царкве, што „чырвоным“ яго завуць за яго чырвоны коляр твару выклікае толькі сьмех прыхаджан.

2) Што ў часе шлюбу Клімовіча за тое, што пеўчыя пачалі памагаць дзяку пеяць „Отчэ наш“ сьв. Спрогіс прыпыніў шлюб і зрабіў авантуру, а пасьля каб ўратаваць сваё палажэньне ўдаў прыхаджан паліцыі, як авантурнікаў.

3) Што за недастачу 2 залатовак сьв Спрогіс адмовіўся хаваць 92 г. Ганну Дземідовіч, якая была пахавана без малітвы.

4) Што ў сьвята Ўваходу ў Храм Найсьв. Багародзіцы праліў на галовы жанчын і на дыван Сьвятое Прычастіе і таптаў гэны дыван нагамі.

Кожнае з гэных абвінавачаньняў заслугоўвае суровае кары. Але сьв. Спрогіс зьяўляецца прыяцелям і аднадумцам сябры кансысторыі прат. М. Кушнёва, і таму яго не толькі не караюць, а яшчэ вызначылі благачынным.

Віленскай эпархіяльнай Ўладай толькі такія сьвяшчэньнікі і падтрымоўваюцца.

Арыгінал лісту з падпісамі перахоўваецца ў рэдакцыі.

## Сумленны выканаўца плянаў атэістаў і масонаў

Прат. Дзічкоўскі трымаў ў такіх варунках саборнага псаломшчыка Ляшкевіча, што ён быў змушаны прыняць на сябе абавязкі стоража пры Пятніцкай царкве: Калі царкву прыняў сьвяшчэньнік Н. Кульчыцкі, дык псаломшчык Ляшкевіч зараз жа быў звольнены з свае пасады стоража.

Зразумела, падтрыманьне рэлігійнага чалавека, псаломшчыка, нават на пасадзе стоража не ўваходзіць у пляны атэістаў—масонаў. І сьв. Кульчыцкі не асьмеліўся яго падтрымаць. Ляшкевіч заменяны асобаю іншавернаю.

## Пісьмо ў рэдакцыю

Ад прыхаджан Віл. Мікалаеўскае царквы атрымана падпісанае імі наступнае пісьмо.

Сьвященніку о. Александру Ковшу
в Вільне

Ваше преподобие.

В декабре месяце 1931 г. со слов членов Прічта Віленской Ніколаевской церкві і другіх ліц стало ізвестно о назначеніі Вас Высшей Духовной Властью вторым священніком Віленской Ніколаевской церкві.

(Глядзі канчатак на 2 балоўцы вокладкі).